
На Спаса ў Саках→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


„Рэха” ў Крынках→4

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 36 (2992) Год LVIII | Беласток, 8 верасня 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Трыялогі з «Анты-гонай»

Усё паказвае на тое, што гэта будзе адна з самых цікавых і найбольш важных мастацкіх падзей новага сезона не толькі на Падляшшы і ў Польшчы, але і ў нашай частцы Еўропы. «Анты-гона» (загаловак напісаны ў адпаведнасці з беларускім вымаўленнем) — гэта не толькі аповед пра лёс герояў старажытнагрэцкага драматурга Сафокла, але будзе пераплятацца з асабістымі трагічнымі падзеямі, якія паўплывалі на тутэйшых на польска-беларускім памежжы адразу пасля Другой сусветнай вайны, калі дайшло да падзелу шматлікіх сем’яў у выніку дэмаркацыі мяжы на ўсходзе Польшчы сталінскімі ўладамі.


У час апошніх рэпетыцый

Дапрэм’ерны паказ «Анты-гоны» пройдзе ў пятніцу на гарадскім пляцы ў Крынках і будзе ўплецены ў новую формулу «Беларускіх трыялогаў», якіх ментарам быў памерлы ў лютым Сакрат Яновіч.

Праект падрыхтаваў Драматычны тэатр імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку пад рэжысёрскім вокам дырэктаркі Агнешкі Карыткоўскай-Мазур. У ролі дызайнера дэбютуе сусветна прызнаны мастак Лявон Тарасэвіч. Спектакль рыхтуецца да фестывалю «Іншае вымярэнне» («Inny Wymiar»), які ў гэтым годзе будзе часткай культурнага праекта «Усход культуры» (прэм’ера п’есы ў яго рамках: 29 верасня на плошчы перад ратушай), які рэалізуецца ў Беластоку, Любліне і Жэшаве. Заадно «Анты-гона», як і «Беларускі трыялог» у Крынках будуць свайго роду данінай павагі Сакрату Яновічу.

## Больш шырокі кантэкст

«Ніва» прысутнічала на адной з рэпетыцый «Анты-гоны». Якраз прабавалі хары, якія нейкім чынам спасылаюцца на хары грэцкай трагедыі, але гаварыць і напяваць будуць на сучаснай мове, таксама па-беларуску. Адзін з іх ствараe больш за дзесятак дзяцей са Студыі фальклору і беларускай песні «Баламуткі», які працуе ў беластоцкай пачатковай школе № 4. Яго кіраўнік, педагог Ганна Васькоўкая ў перапынку рэпетыцыі сказала нам, не хаваючы хвалявання ўдзелам у падзеі:

— Мы трапілі да пані Агнешкі Карыткоўскай-Мазур праз Аліну Ваўранюк (настаўніца, лідарка асацыяцыі АБ-БА — М. Х.). Нашы дзеці таксама прымаюць удзел у школьных тэатральных занятках. Гэты новы вопыт для іх вельмі карысны. Важна ў гэтым праекце таксама тое, што паказаны тут беларуская культура і мова па-іншаму, чым раней, чым праз традыцыйныя агляды, фестывалі ці фэсты, у больш шырокім кантэксце. Дзеці ў спектаклі будуць выкарыстоўваць песні з дзіцячых беларускіх спеўнікаў:

— Усе нашы песні — на беларускай мове. Іх выбар залежыць ад аўтара музыкі для прадстаўлення (Міхал Яцашэк — М. Х.). Яны спасылаюцца на забавы, вылічанкі з дзіцячага свету.

Гасцінна ў спектаклі зайграе ў асноўным па-польску, але і на беларускай і рускай мовах, адзін з найвялікшых акцёраў у нашай частцы Еўропы, які працуе ў мінскім тэатры імя Янкі Купалы — Алесь Малчанаў. Калі мы былі на рэпетыцыі, рыхтаваўся ён папольску да ролі Тырэсія, сляпога непагрэшнага вешчуна. Ён прыбыў напярэдадні. Разам з іншымі акцёрамі і стваральнікамі спектакля паглядзеў быў дакументальны фільм Агнешкі Арнольд «Герой», прысвечаны лёсу жыхароў падбеластоцкіх вёсак спаленых у 1946 годзе атрадам «Бурага»:

— Трагедыя, паказаная ў фільме, гэта менавіта той кашмар, які аўтар напісаў у сваёй антычнай трагедыі, расказаная ў такой жа тэмпературы эмоцый.

Адзначыў:

— Я вельмі ўражаны тэатральнай ідэяй, якая расказвае аб чалавечай трагедыі пасля дэмаркацыі межаў, навязанай савецкім рэжымам, накладзенай па аповед Сафокла.

Сцэнічны рух для п’есы рыхтуе Мацей Заклічынскі, які пастаянна працуе з Агнешкай Карыткоўскай-Мазур (рэжысёр спектакля «I move you» ў беластоцкім драмтэатры, харэограф праграмы тэлеканала TVN «Танцы з зоркамі»):

— Прымаючы да ўвагі прынцыпы харэаграфіі строга вызначаныя ў антычнай драме, усё ж спрабую рух зрабіць крыху больш сучасным, з улікам крынкаўскага пласта аповеду. У першы раз у мяне ёсць магчымасць пабудаваць жанравыя сцэны, калі гаворка пра рух, а заўсёды ў сваёй працы гэтага асцерагаюся. Да гэтага часу я стараўся пазбягаць сцэнічных сітуацый, калі рух паказвае тое, што гаворыцца на сцэне, адзін да аднаго.

Таксама прыватна Мацею Заклічынскаму не чужыя праблемы ў «Анты-гоне»:


Алесь Малчанаў

— Я родам з Сілезіі, нарадзіўся ў Глівіцах. Гэтая праблема, аднак, у некатарай ступені, тычыцца і мяне. Мой бацька, які нарадзіўся ў 1939 годзе, быў перасялены з бабуляй і прабабуляй у Сілезію з Драгобыча. Яны былі проста пасаджаны на цягнік. Ніколі туды не вярнуліся. Ёсць шмат паралеляў паміж сітуацыямі ў беларуска-польскай гісторыі, расказанымі Агнешкай, і польска-ўкраінскімі, польска-сілезскімі, а дакладней паміж Заглэмбем і Сілезіяй. Я да гэтага часу не магу зразумець усё прысутнай варожасці, якая вынікае з таго, што Заглэмбе ніколі не было нямецкім, так як Сілезія.

## Філасофія быцця тутэйшых

Рэжысёрка прадстаўлення падзялілася з намі:

— Сафокл піша аб трох прадказаннях, якія Тырэсій дае цару Фіваў Крэонту. Першая, што пасля смерці Антыгоны страціць сына Гемана, жаніха Антыгоны. Другая, што за сынам Геманам «пойдзе» яго маці, жонка Крэонта Эўрыдыка. Гэтыя дзве смерці здзяйсняюцца. Трэцяе прадказанне гучала: горад пойдзе супраць Крэонта. Сафокл заканчвае сваю гісторыю па другім прароцтве. З пакалення ў пакаленне пераходзіць праклён, якога і да сёння не разумеем. У нашым спектаклі, пасля дзесяцігоддзяў, трэцяе прароцтва спраўджваецца ў Крынках. Уводзім Крынкі ў ход гісторыі Крэонта, з другога боку ў пагранічнасць Фіваў таго часу, і польска-беларускую. Выходнае становішча паралельнае. Робіцца клямар. Я стаўлю спектакль у двух планах: Фіваў і Крынак у 1947 годзе. Сафоклавы персанажы іграюць сваіх адпаведнікаў з Крынак. Ствараем на сцэне дзве пастаці, аб якіх толькі згадвае Сафокл. У нас гэта Ежы і Андрэй, якія даводзяць да братазабойчай барацьбы, значыць, уводзім у план канфлікт Арміі Людовай і Арміі Краёвай. Характар Ежы бярэ ўскосна, хоць і не наўпрост, з «Бурага». Гэта спасылка на сітуацыю, калі хапіла аднаго з братоў

працяг ☞4





# Анекдот і праўда жыцця

Спыталіся неяк у дзеда:

— Дзед, скажы, каб табе далі мільён долараў, што ты з імі рабіў бы?

— Ого! — адказвае дзед, і вочы яго набываюць задуменны выгляд. — Па-першае, хлебам я ўжо больш не душыўся б. Еў бы сала з салам. І салам заядаў бы. Па-другое, у хаце сваёй аж да вокнаў пасцяліў бы саломы самага лепшага гатунку. Ну і па-трэцяе, бабе сваёй загадаў бы, каб печку паліла толькі габляванымі дошкамі.

Гэты анекдот стары. Толькі вось не старэе ніяк. А ўсё таму, што тэма ў ім закранутая вечная. Чалавек не можа скочыць вышэй сваёй свядомасці. І як бы яму не пашанцавала ў жыцці, калі галоўнай марай яго свядомасці з'яўляецца сала, то на сала і пойдзе ўсялякі мільён. І не толькі дармовы, але і зароблены. А рэшта грошай, што немажліва будзе патраціць на сала з-за іх вялікай колькасці, будзе кінутая ў печку ў выглядзе габляваных дошак.

І тое, што габляваныя дошкі не даюць больш цяпла чым негабляваныя дровы, нікога не турбуе. Трэба ж, каб гэты мільён пацешыў чалавека. А можа ён яго пацешыць выключна ў межах яго свядомасці і разумення шчасця менавіта гэтым канкрэтным індывідам.

Толькі ад чаго залежыць тая свядомасць? Чаму ў адных яна такая, а ў другіх іншая?

— І чаго амерыканцы ў тую Сірыю лезуць, — абураецца на гарадзенскім прыпынку мужчына, нешта спрабуючы даказаць двум сваім прыяцелям. — Усюды ім улезці трэба.

— Дык у Сірыі ўлады забойчы газ выкарысталі супраць мірнага насельніцтва, — стараецца выказаць сваю думку адзін з яго суразмоўцаў.

— Ды брахня ўсё гэта, — упэўнена махае галавой мужчына. — Які дурань супраць свайго народа будзе выкарыстоўваць газ?!

Гэты аргумент пераконвае ўсю кампанію. І яны матляюць галовамі ў знак згоды. Але на тварах, пры гэтым, няма і цяню сапраўднай зацікаўленасці рэальным становішчам. Падсумавалі, каб апраўдацца. Каб не браць на душу цяжар адказнасці за тое, што абыякава паставіліся да страшнага гора іншых людзей.

— А халера яго ведае, ці правільна, ці няправільна арыштавалі гэнага кіраўніка з „Уралкалія", — абмяркоўваюць у іншай кампаніі.

— Мы гэтага ведаць не будзем, — кажуць яны. — Нам жа ўсяго не гавораць. А можа там у іх іншыя прычыны, пра якія мы не ведаем. Можа дзяржаўная таямніца якая, што нельга гаварыць. А нам над гэтым галаву нават ламаць не варта. Бо яны там усё адно дагаворацца і без нас, — так апраўдваюць сваё нежаданне нават думаць, сваю бяздзейнасць, свой страх.

Страх. Вось што ўплывае на свядомасць. Страх, што прыйдуць і забяруць той мільён, калі ўбачаць новы дом і дарагую машыну, прыводзіць да засцілання старой хаты саломай аж па вокны. З аднаго боку спаць як бы і мякчэй стала, а з другога, можа не зразумеюць іншыя, што тут ёсць мільён. Можа пройдуць міма і абрабуюць іншых. А тут будуць паліць печку габляванымі дошкамі і цешыцца, што ўдалося ўсіх падмануць.

І гэта ўжо свядомасць. Свядомасць створаная страхам.

Страх, што трэба будзе нешта рабіць і рызыкаваць прымушае прыкідвацца дурнем нават перад сабой, і рабіць выгляд, што мы, маленькія людзі, усё адно нічога не даведаемся ні пра Сірыю, ні пра калійныя ўгнаенні, ні пра што.

Толькі ёсць яшчэ адна мудрасць, якая сцвярджае, што кожнаму баязліўцу трэба пакідаць шлях да ўцёкаў. Бо як такога няма, то той становіцца больш небяспечны, чым самы адважны герой. Асабліва тады, калі баязлівец пачынае баяцца не нечага там звонку, а свайго ўнутранага страху. Страх ад страху робіць чалавека шалёным і здольным на ўсё.

А найбольш яскравай прыкметай таго, што чалавек у сённяшняй Беларусі пачынае ўжо баяцца свайго страху, з'яўляецца акурат спроба масавага апраўдання сваёй некампетэнтнасці ў важных пытаннях. У такіх, пра якія і гаварылі мужчыны на гарадзенскім прыпынку. І гэта яўная прыкмета таго, што хутка яны вельмі захочуць, і нават запатрабуюць, каб без іх удзелу не вырашалася аніводнае пытанне. Нават не вельмі важнае. Страх, напалохаўшыся страху, робіць вельмі адважную свядомасць.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Давайце паверым у зялёнае



На палітры колераў чорны і белы з'яўляюцца самымі відовішчнымі. Некаторыя дакідаваюць да іх чырвоны. Яшчэ іншыя зялёны. Выпадак гісторыі так учыніў, што чырвоны і белы — нацыянальныя колеры палякаў. Калі б дакінуць да іх зялёны, колер надзеі, верагодна, жывей забілі б сэрцы многіх беларусаў. Нямеччына захапляецца чорным. Хапае чэрні на яе нацыянальным сцягу. Інтэнсіўнай чырванню крыві асляпляў звалены — слушна для некаторых, для іншых гэта няправільна — Савецкі Саюз. На жаль, гэты колер, сімвал бунту, гераізму, мужнасці і самаадданасці, хутка перакінуўся ў знак агрэсіі, панавання, пагарды і прыгнёту. Савецкі сцяг прыздоблены серпам і молатам, лёг густым ценем на паў-Еўропы, не кажучы ўжо пра большую частку Азіі. Падчас Другой сусветнай вайны нацысцкая чарната задыміла не менш свету. У той час як белы асацыюецца з чысцінёй і нявіннасцю, з пакорай. Тым не менш, не без падстаў, ні адна чалавечая супольнасць не зрабіла яго сваім флагманскім колерам. Бо гэта таксама знак капітуляцыі, калапсу, паразы. Акрамя таго, цікава, што белае можа быць прачытана як крайняе паведамленне: чысціня намеру, якая аціраецца аб нявіннасць і ў той жа час аб паразу. Рай і пекла многіх народаў. Псіхалогія колеру ў гэтым пытанні мела б шмат што сказаць. Нават калі гэта так, чаму ж так шмат грамад, апрача жоўтага, зялёнага, чырвонага і чорнага, спасылаецца на сваіх сцягах таксама на белы. Яго цноту або ўпадак.

Тым не менш белы, на самой справе, гэта не белы. Вялікай заслугай імпрэсіяністаў з'яўляецца адкрыццё, што самую глыбокую беласць дасягаецца за кошт кантрасту з чорным. Пра гэта сведчаць карціны польскага мастака Юльяна Фалата, асабліва яго шматлікія зімовыя пейзажы. Найсакавіты колер снегу атрымліваў ён шляхам прымянення яго разам з белымі і чорнымі плямамі. Для гледача ў рэшце рэшт гэта не мае значэння, што бачыць, але як. Чалавечае ўспрыманне выбарачнае. І не толькі пры колерах. Калі жывапісная белізна пабудаваная на рэштквавым малюнку чорнага, чаму б не мела б быць так з рэальнасцю апісанай намі? Кожны трактуе яе індывідуальна: праз свае пакуты, гнеў, аптымізм, светапогляд, крыўды ці асабліваасці. Так што кожны бачыць нешта іншае. І ўсе маюць рацыю. І ніхто.

Кацярына Вэнгліцкая, аўтарка не адной сентыментальнай кнігі пра польскія ўскраіны, з'ездзіла ўздоўж і ўшыр Украіну, Беларусь і Літву. Спазнала гэтыя землі, як мала хто. А хутчэй як мала хто з палякаў. Аднак, украінец, чытаючы яе рэпарцёрска-краязнаўчыя запіскі, не знайшоў бы там сваёй Украіны. Гэтай Украіны адзначанай папраўдзе стыгматамі польска-ўкраінскага мінулага, але і яго асабістай гісторыі, неабавязкова адзначанай «krwią i blizną», і, перш за ўсё, яго цяперашняй у ёй прысутнасцю — прысутнасцю ўкраінца на Украіне. Гэтак жа літовец не знойдзе ў кнігах Вэнгліцкай сваёй Літвы ці беларус сваёй Беларусі. Я чытаў яе «Białoruskie ścieżki», і я, паляк, які пішу ў беларускую «Ніву», адчуў з-за зместу кнігі канфуз. Сучасная Беларусь Вэнгліцкай гэта зруйнаваныя шляхецкія сядзібы, зганьбаваныя мінулае, сентыментальныя анекдоты аб годнай — вядома! — крэсавай мінуласці, — і палякі. Палякі, палякі, палякі! Гэтыя вялікія і гэтыя нікому невядомыя. А дзе ж беларусы... у Беларусі? Тут раптам выпаўзлі яны з падсцілу адзічэлага парку ў асобе двух прыдуркаватых старэчаў, памятаючых час Другой Рэчы Паспалітай. Для таго, каб прывітаць «паноў», што заехалі на турыстычным аўтобусе.

Гэты вобраз сімвалічны — з-пад сцяга бела-чорнага піяру. Кім з'яўляюцца беларусы для палякаў, калі многія з іх не ўмеюць нават паказаць на карце, дзе знаходзіцца Беларусь? Хто такія палякі для беларусаў, калі чуюць ад іх, што іхняя краіна, іхняя радзіма, гэта польскія, страчаныя крэсы? «Białoruskie ścieżki» Вэнгліцкай вядуць праз катакомбы гісторыі. Аўтарка нехавотна выходзіць на паверхню сучаснасці. Я разумею яе намеры — адрасатам яе кнігі не з'яўляюцца ж тыя склерозныя старэчы або іх унукі, але апантаныя сентыментам мінулага былыя жыхары мультыкультурнай і шматнацыянальнай Беларусі. Іхняй Беларусі. Але не беларускай. На жаль, пані Вэнгліцкая — не Фалат рэпарцёрскага апісання. Мінулае не можа быць зразуметае па-за кантэкстам нашых дзён. А сучаснасць — без кантэксту мінулага. І так ствараецца будучыня. Каб была яна лепшай, чым цяперашні дзень. Давайце верыць у зялёны колер.

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# У гонар вялікага Сакрата

Сёлетні «Беларускі трыялог» у Крынках будзе ўнікальным. Па-першае таму, што ўпершыню адбудзецца ён без свайго стваральніка і шматгадовага ментара Сакрата Яновіча. Па-другое, адбывацца цяпер, у пачатку верасня (6-7), і не так як раней — пры жыцці вялікага пісьменніка — у летні час. Нарэшце, шмат што змянілася ў формуле трыялогаў — яна пашырана на пазалітаратурныя тэмы: іншыя віды мастацтва (культуры) і палітыку. Лозунг XIV ужо «Трыялогаў»: «Сакрат Яновіч і сучаснасць» і гэтая падзея з'яўляецца таксама данінай вялікаму беларускаму пісьменніку. Арганізатарам мерапрыемства надалей з'яўляецца «Віла Сакрата», цяпер на чале з беларускім фатографам, каардынатарам апошняга выпуску «Басовішча» Паўлам Грэсем, а адным з яе бацькоў з'яўляецца Лявон Тарасэвіч. Некалькі дзён таму фонд абвясціў у спецыяльным лісце: «Трынаццацігадовая гісторыя «Трыялогаў» магла скончыцца з сыходам іх заснавальніка Сакрата Яновіча. Дванаццаць архіўных ужо тоўстых тамоў журнала «Annus Albaruthenicus» (штогоднікаў, якія кожны год былі збольшага рэзюмэ чарговых «Трыялогаў», праведзеных да цяперашняга часу з удзелам беларускіх экспертаў літаратуры з усяго свету — М. Х.), стаяўшых на паліцах бібліятэк, наборы газетных артыкулаў, фатаграфій, інтэрв'ю былі б больш-менш больш поўным апісаннем ідэі рэгулярных сустрэч дзеячаў высокай культуры з Польшчы, Беларусі і іншых краін Еўропы ў сэрцы глыбокай правінцыі. Аказалася б тады, аднак, што гэта была ідэя аднаго чалавека, якая не мае глыбокіх гістарычных і культурных фундаментаў, не знаходзіць водгаласу, не прыносіць плёну». Падкрэслена: «Шматгадовая гісторыя «Трыялогаў» паказала, аднак, што дзякуючы такім сустрэчам беларуская культура пачынае існаваць у Еўропе, у мультыкультурным і шматканфесійным грамадскім жыцці рэгіёна, набірае моцы і значэння, узбагачае яго. Гэта дзякуючы ўніверсалізм, выплываючым з трыялогавых семінараў і высокага ўзроўню дыскусій. Ідэя XIV «Трыялогу» геаграфічна расцягваецца паміж Беласточчынай — Беларуссю — Польшчай і Еўропай. Гэта будзе «Трыялог» розных галін культуры, у якім возьмуць голас выдатныя стваральнікі літаратуры, візуальных мастацтваў і тэатра».

Арганізатары абвясцілі, што ўдзельнікі семінара: паэты, пісьменнікі, журналісты, гісторыкі, філосафы, грамадскія і палітычныя дзеячы, стваральнікі культуры ў аўтарскіх выказваннях знойдуць спасылкі на ідэю і філасофію, вызнаваную Сакратам Яновічам, і сучасны прыём яго здабыткаў. Сярод запрошаных гасцей апынуліся Габрыеля Кардаца, Тамара Андрусышына, Кшыштаф Чыжэўскі, Сяргей Чыгрын (аб іншых пішам таксама ў гэтым нумары «Нівы», у тэксце аб спектаклі «Анты-гона», які будзе прадстаўлены ў ходзе «Трыялога»). Дыскусіямі будзе кіраваць Павел Газьлінскі, журналіст «Выбарчай газеты».

У рамках прэзентацыі візуальных мастацтваў будзе паказана ўстаноўка на адкрытым паветры Роберта Кусьміроўскага «ELEMENTARZ». Гэта спроба «супрацьпастаўлення нашай памяці з этнічнымі, культурнымі, семантычнымі і прамысловымі астанкамі, у месцах нашага існавання. Гэта паношаны набор прадметаў, сабраных з розных месц выпрабавальнай зоны, якія нагадваюць сваёй формай і структурай могілкі, помнікі ці надмагільныя пліты. Сельскагаспадарчая тэхніка і яе часткі, канструкцыі з планачак для вырошчвання парэчкі, тэлеграфныя слупы, палявыя калоны і электрыфікацыйныя скрынкі, часта з-за нездавальняючага стану захавання, гэтак жа нагадваюць могілкавыя крыжы, магільныя дамы ці прыдарожныя магілкі». Адбудуцца таксама, між іншым, паказы дакументальных фільмаў: «Размова з Сакратам» Габрыелі Кардацца, у спалучэнні з аўтарскай сустрэчай, і «Сакрат Яновіч — як я стаў беларусам» Пятра Садзінскага, інтэрв'юрака праведзенае з пісьменнікам падчас некалькіх сустрэч у канцы яго жыцця.

Усе мерапрыемствы «Трыялога» адкрыты. Ён праходзіць пад патранатам міністра культуры і нацыянальнай спадчыны, пры фінансавай падтрымцы Нацыянальнага цэнтра культуры і Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

**У Гайнаўскім павеце праваслаўныя вернікі збіраюцца на малітвы ў час святкавання Праабражэння Гасподняга ў Дзмітрыеўскай царкве на горцы побач Сакоў і ў Праабражэнскіх цэрквах на могілках у Новым Беразове і Кленіках. У двух апошніх прыходах у цэрквах і над магіламі святары і вернікі моляцца за ўпакаенне душ сваіх блізкіх пакойнікаў. У гэты дзень найбольш праваслаўных збіраецца на Святой Гары Грабарцы. Аднак ад моманту заснавання Мужчынскага манастыра святога велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага ў Саках, на горцы побач гэтай вёскі таксама збіраецца многа народу.**



# Малітвы на Дзмітрыеўскай горцы

Прыхаджане і паломнікі маліліся ў Дзмітрыеўскай царкве і побач яе напярэдадні і ў сам дзень святкавання Праабражэння Гасподняга

У гэтым годзе 19 жніўня і напярэдадні свята шматлікія вернікі і паломнікі ўзносілі прашэнні да Бога, Багародзіцы і св. Дзмітрыя, стоячы ў царкве або на прыцаркоўнай плошчы, на Дзмітрыеўскай горцы, побач старых дрэў і даўніх крыжоў. Гэтае месца намоленае людзьмі, якія цягам стагоддзяў прыбывалі сюды з надзеяй на Божую дапамогу ў час хвароб і жыццёвых выпрабаванняў. Іншыя прыходзілі, каб падзякаваць за выслуханыя просьбы. І так было сёлета.

Прыбылі ў Сакі дзеці, ўнукі і праўнукі Пракопа Іваціка з Вялікіх Пасечнікаў, якому пасля малітваў да велікамучаніка Дзмітрыя ўдалося выратавацца ад смерці ў 1946 годзе, якая спаткала вазакоў. У знак падзякі Богу і святому Дзмітрыю Пракоп Івацік паставіў побач царквы крыж і прыязджаў сюды маліцца. Зараз стары крыж моцна знішчаны і Пракопавы нашчадкі збоку паставілі вялікі новы і прыгожа аздоблены крыж, які быў асвечаны ў час хрэснага ходу. Святары і вернікі прыкладваліся да крыжа з рознымі прашэннямі да Бога.

У нядзелю, напярэдадні святкавання, прыбылі на Дзмітрыеўскую горку многія гараджане, якія ў сам дзень Праабражэння Хрыстовага мелі ісці на працу. У гэты дзень маліліся таксама шматлікія вернікі, якія прыбылі на горку і на наступны дзень. Настаяцель царквы Нараджэння Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы, протаіерэй Леанід Шэшка ў час пропаведзі тлумачыў чаму так важна маліцца ў час усяночнай багаслужбы напярэдадні свята, бо адбываецца тады духоўная падрыхтоўка да ўдзелу ў літургіі на наступны дзень. Першая літургія ў час самога святкавання служылася ноччу. Малі ў час другой літургіі і падчас хрэснага ходу ўзначальваў настаяцель Успенскага прыхода ў Кляшчэлях і заадно кляшчэлеўскі благачынны, мітрафорны протаіерэй Мікалай Келбашэўскі, які запрасіў сабраных на святкаванне Успення Прасвятой Багародзіцы ў Кляшчэлях.

— Бог прабачае заўсёды, чалавек часам, а гісторыя ніколі. Не будзем аднак раздзіраць ранаў з мінулага, бо мы павінны прабачыць нашым злачынцам. Зараз таксама забіваюць хрысціян і нішчаць праваслаўныя цэрквы і таму трэба карыстацца ўрокамі мінулага, каб злачынствы не паўтараліся, — сказаў мітрафорны протаіерэй Мікалай Келбашэўскі адразу пасля асвячэння крыжа і ўспомніў Пракопа Івацыка, які паставіў крыж у 1947 годзе перад святкаваннем у гонар св. Дзмітрыя Салунскага.

— Стары крыж, які паставіў мой бацька Пракоп, моцна знішчаны і мы разам з сёстрамі і з дапамогай унукаў рашыліся паставіць новы крыж. Восенню мінулага года залілі мы падмурак, а крыж прымацавалі сёлета. Выканаў яго і ўпрыгожыў мой сын Юрка, выпускнік вышэйшай мастацкай школы, які зараз займаецца маляваннем і разьбой, — стаў расказваць мой настаўнік з сярэдняй школы Павел Івацік з Гайнаўкі. — Хацелі мы, каб крыж надалей сведчыў пра ўратаванага майго бацьку Пракопа. Выканалі мы яго салідна і моцна замацавалі ў зямлю, каб як найдаўжэй стаяў тут.

Павел Івацік стаў успамінаць таксама 1946 год, калі атрад «Бурага» (Рамуальда Райса) гнаў з Белавежскай пушчы фурманоў з нашых сёлаў.

— Праязджаючы побач Дзмітрыеўскай царквы мой бацька Пракоп стаў маліцца да святога Дзмітрыя, каб выратаваў яго ад няшчасця і вярнуў дамоў. І яго просьбы здзейсніліся, — заявіў Павел Івацік.

— Многія людзі перакананыя, што пасля малітваў да св. Дзмітрыя ваш бацька, апынуўшыся непадалёк ад гэтай горкі, кінуўся ўцякаць і ўдалося яму схавацца, а пасля жывым і здаровым дабрацца дамоў, — уваходжу ў словы майму суразмоўцы.

— Гэта няпраўда. Мой бацька маліўся, праязджаючы побач царквы св. Дзмітрыя, але ўратаваўся ад смерці ажно каля Пухалаў. Тут немагчымы было ўцячы, бо людзі «Бурага» вельмі пільнавалі вазакоў. Аднак перад вёскай Пухалы майго бацьку і яшчэ двух фурманоў — Івана Назарука і Антонія Жукавіцкага з Ягаднік — аддзялілі ад астатніх і паставілі каля іх чалавека з вінтоўкай. Калі ён учуў выстрал, махнуў рукой у іх бок і адышоў. Яны адразу сталі ўцякаць, прытым на фурманках. Дабіраліся яны дамоў кожны іншай дарогай, але ўсе даехалі. Мой бацька ехаў праз Мокрае і Кошкі, бо ведаў, як адтуль дабрацца дамоў. Гэта ўсё было ў пачатку 1946 года. Бацька паставіў крыж побач царквы ў 1947 годзе ў знак падзякі св. Дзмітрыю за заступніцтва і Богу за выратаванне жыцця. Тады побач Пухалаў забілі ажно 29 чалавек, — сказаў Павел Івацік, які прыбыў на святкаванні разам з сямейнікамі.

Настаяцель Дзмітрыеўскага мужчынскага манастыра ў Саках, архімандрыт Цімафей пасля багаслужбаў успомніў пра рамонтныя працы ў царкве. Прадбачваецца заканчэнне іх ажно ў наступным годзе. Сёлета была выканана вялікая мураваная лесвіца ў галоўны ўваход у царкву. Будаўнічыя работы будуць працягвацца каля царкоўнага падмурка, будзе парадкавацца прыцаркоўная плошча. Пазней будзе пастаўлены новы прыгожы іканастас.




Новы крыж, пастаўлены нашчадкамі Пракопа Івацыка

— Мы ўдзячны людзям, якія працуюць у час рамонту царквы і дапамагаюць нашаму манастыру і прыходу, — заявіў вернікам архімандрыт Цімафей.

Сродкі на рамонтныя працы дораць праваслаўныя вернікі. Вялікія грошы былі перададзены Міністэрствам культуры і нацыянальнай спадчыны, аб чым сведчыць інфармацыйная дошка побач храма. Рамонт Дзмітрыеўскай царквы пачаўся некалькі гадоў таму. Царква ўжо прыкрытая гонтам і адрамантаваная ўсярэдзіне. Зменены вокны і дзверы, адрамантаваная падлога і пакладзена новая шалёўка ўсярэдзіне і звонку, адрамантаваная столь царквы. Дзмітрыеўская горка з царквой і могілкамі — прыгожа агароджана, так сама як былая школа ў Саках, прыстасаваная на вялікі манастырскі будынак.

У час сёлетняга святкавання Праабражэння Гасподняга пасля вадасвятнага малебна асвячалася вада, якую людзі набіралі ў бутэлькі і неслі дамоў. Святары чыталі таксама малітвы і асвячалі фрукты. Людзі п'юць асвячоную ваду і спажываюць асвячоныя фрукты перад святочным абедам і вераць, што асвячэнне яблык ці груш спрычыніцца таксама да добрага ўраджаю фруктаў. Вернікі маліліся таксама ў царкве, перад цудатворнай іконай св. Дзмітрыя і ў яго прасілі дапамогі. Сабраныя разыходзіліся дамоў з верай, што іх малітвы выслухаў Бог і дапаможа ў час жыццёвых выпрабаванняў, калі гэтая дапамога будзе ў карысць збавення душы.

Манахі з Сакоў частавалі паломнікаў супам і гарбатай на плошчы паміж горкай і дарогай, якая ў час святкавання пераўтвараецца ў вялікую аўтастаянку. Многа прыхаджан і прыезджых вернікаў збіраюцца яшчэ ў Дзмітрыеўскай царкве ў першую нядзелю кожнага месяца, калі служыцца літургія і чытаецца акафіст перад іконай велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Як даехаць у Семяноўку

У Новым Ляўкове (Нараўчанская гміна) ёсць скрыжаванне важных дарог ваяводскай і павятовай. Ваяводская артэрыя бяжыць ад Юшкавага Груда цераз Бандары, Новае Ляўкова і Нараўку, а яшчэ далей у Навасады і Гайнаўку. Чатыры кіламетры за Новым Ляўковам у бок Бандароў ёсць наступнае скрыжаванне і адсюль адна таксама асфальтаваная дарога ідзе ў Тарнопаль і ў Семяноўку (а тут знаходзіцца мытня).

Вялікія ды доўгія грузавікі, між іншым, аўтафуры вельмі часта едуць з розных бакоў, у тым ліку з Гайнаўкі ў мытню. У Новым Ляўкове перад скрыжаваннем няма дарожнага ўказальніка з надпісам „Семяноўка". Як трапіць тады вадзіцелям аўтамашын у мытню? Яны спыняюцца перад паваротам і пытаюцца ў жыхароў Новага Ляўкова, як даехаць у Семяноўку. А вось ты спытайся ноччу, калі вяскоўцы спяць!

Мая хата стаіць побач вышэйзгаданага скрыжавання ў Новым Ляўкове і я бачыў, як шафёры не адзін раз блудзілі. Праязджалі скрыжаванне ды ехалі ў Старое Ляўкова, а гэта ўжо зусім непатрэбна. Адтуль і павярнуць назад цяжка, тут дарогі вузкія. Часта сярод ночы стукалі ў мае дзверы або вокны і пыталіся пра дарогу ў Семяноўку.

Дарожныя ўказальнікі з надпісамі „Семяноўка" або „Бандары" перад скрыжаваннем дарог у Новым Ляўкове неабходныя, а ўжо перш-наперш для тых, хто едзе з Нараўкі. Пра гэта сведчаць прыведзеныя прыклады. Варта, каб пра ўказальнікі паклапацілася Падляшскае праўленне ваяводскіх дарог у Беластоку.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Не так быць павінна

Сёлета абрадзілі ў маім садочку вішні, яблыкі, слівы і грушы. Галінкі ўгіналіся ад фруктаў. І што з гэтым меў зрабіць адзінокі пенсіянер? Калісьці казалі, што ад прыбытку галава не баліць. А для мяне гэты „збытак" стаў праблемай. Добра, што суседзі дапамаглі. Спадаўшыя „папяроўкі" — яблыкі сакавітыя, значыцца, адвозіў сябру на корм авечкам. Заядаліся. Так было з „вянгеркамі" і грушамі. З вішань варэнне зварыў, ды зараз добрых людзей „угашчаю", бо дочкі сабе абяспечыліся. У мінулым годзе чаромхаўскі прадпрымальнік арганізаваў скупку і людзі мяшкамі яблыкі прадавалі. Хоць прыбытак з таго быў невялікі, але парадак быў на панадворку. Зараз трэба было б на сметніцу выкідаць. Пры камуне таго не было. У гаспадарцы кожны колас лічыўся на вагу золата. Селянін намагаўся выкарыстаць кожны лапік няўгоддзяў. Людзі займаліся збіраннем зёлак. Працавалі кааператывы „Гортэкс", „Вітаміна" і „Лес". Зараз для бізнесу „не эканамічныя" такія здзелкі. І марнуецца дабро, якім абдароўвае нас натура. Ці так быць павінна ў рыначай эканоміцы? **(ус)**

## Паведамленне

Інфармуем, што 20 жніўня 2013 г. Зьвяз Беларускай Моладзі памяняў назоў на „Шчыты — Зьвяз у карысьць адукацыі і прамоцыі беларускай культуры". Змена назову звязана з пашырэньнем дыяпазону дзейнасці арганізацыі, ды круга адрасатаў нашых дзеянняў.

Адначасова інфармуем, што асноўныя мэты і задачы арганізацыі не мяняюцца. Не мяняюцца таксама NIP, REGON ды нумар KRS арганізацыі.

**Старшыня Ігар Лукашук**

# Гайнаўска-крынскае беларускае рэха



У адну з апошніх жнівеньскіх начэй гайнаўскае „Рэха пушчы" ўпершыню завандравала на старажытны крынскі тракт у Гародню. На дзядзінцы невялікай мяшчанскай хаты з вокнамі на памежны Грабшаў лес чакала іх вогнішча, сарганізаванае гасціннымі членамі і сябрамі крынскага культурнага аб'яднання „Тэрра інкогніта". Як на далоні відаць было згэтуль размешчаны ў даліне, рассветлены безліччу ліхтароў старажытны горад. Стагоддзямі гучала тут простая, беларуская мова. Хто б падумаў, што так гэта ўсё будзе. Было і раптам няма. Хто б падумаў, што ў новай рэчаіснасці нехта яшчэ адважыцца тут загаварыць ці заспяваць па-нашаму. Заліліся начныя Крынкі гукамі гайнаўскіх гармонікаў, беларускімі галасамі гайнаўскіх спевакоў. Занава засвяціласа зарослая бур'янам забыцця мясціна. Можа моцнае гайнаўскае рэха здолела дакрануцца замкнутых на два абароты жывых і мёртвых тутэйшых душ? Незвычайная натуральнасць і ўражлівасць гайнавян здольная адчыніць любы замок. Дакладна можна было аб гэтым пераканацца ў час іх аднадзённага візіту на Крыншчыну. Рэхавяне безумоўна сталі галоўнай атракцыяй забітых турыстамі падкрынскіх Крушынян. Тут, узамен за міску татарскай стравы, абяцалі яны даць канцэрт. Іх аўтобус спыніўся перад самым уваходам у мячэць. Паўгадзіны пазней пад'ехаў туды чарговы, на зялёнагурскіх нумарах. Турысткі з заходняй Польшчы высыпаліся з падрыхтаванымі да акцыі фотаапаратамі. Ну і папулярная гэтая мячэць... Людзі глядзяць на яе як на сапраўдны цуд. Аднак выявілася, што сапраўдным цудам сталі гайнаўскія хлопцы, якія за аўтобусам апраналіся ў сцэнічную вопратку. Менавіта на іх былі накіраваны зялёнагурскія фотаапараты, мабільнікі і ўсякая падручная здымачная тэхніка. Пра мячэць вымушаны былі забыць і гайнавяне, якіх адразу загналі на пляцоўку перад „Татарскай юртай". Іх музыка як магніт прыцягнула ўвагу людзей з цэлай вёскі — і прыезджых, і мясцовых. Сярод слухачоў апынулася Таццяна-Танзіля Талькоўская з Паплаўскіх — карэнная крушынянская татарка. Паслухаць беларускія песні захацелі яе муж і цэлая радня, якая з'ехалася сюды на летні адпачынак.

— Мы пакуль тут часова, але збіраемся вярнуцца назаўсёды, — кажа яна. — Любім гэтыя песні і мову, гэта ж наша.

Муж спадарыні Тацціяны — праваслаўны, але, як сама прызнаецца, згода ў сям'і заўсёды панавала, а дзеці па сёння падтрымліваюць рэлігійныя традыцыі абодвух бацькоў.

Ірэне Харужычэўскай з Зялёнай Гуры спеў гайнавян выцінуў з вачэй слёзы — вялікія як гарох. Прыгадалася ёй мова страчанага назаўсёды роднага кута. Спадарыня Ірэна прыйшла на свет у 1936 годзе ў падпінскім Гарадышчы, з якога разам



Гайнавянін у татарскім варыянце

з бацькамі была вымушана з'ехаць у 1945 годзе. Нечаканы ўспамін надта складаных пасляваенных падзей стаў для яе вельмі хвалюючым. Праз цэлае сваё жыццё ўраджэнка Піншчыны стараецца падтрымліваць сувязі з Беларуссю і ўсім, што беларускае, таму і абяцала падумаць аб запрашэнні гайнаўскіх спевакоў да сябе.

З цягам часу і выпадкаў высветлілася, што запатрабаванне на беларускі спеў у турыстычных Крушынянах надта вялікае. Гаспадары „Татарскай юрты" запрапанавалі яшчэ два дадатковыя выступленні. Не трэба было доўга ўгаварваць гайнаўскіх спевакоў. Яны ў захапленні ад зацікаўлення сваёй творчасцю рашылі прысвяціць прызначаны на наведванне ваколіцы час. Здымкі харыстаў завандруюць нават у цэнтральную Францыю, з якой прыехала немалая група пенсіянераў.

— У час нашага падарожжа па Польшчы мы наведалі Варшаву, Торунь і Крушыняны, — прызналася прадстаўніца французскай групы. — Гэтую вёску ведаюць у цэлым свеце, — дадала яна.

Французам надта спадабаліся беларускія спевы, у якія нават прабавалі актыўна ўключацца.

Не пабачыўшы мячэці, пагналіся гайнаўскія спевакі ў Міхалова. Там, у Лабараторыі фільма, гуку і фатаграфіі — каралеўстве Тамаша Віснеўскага якраз праходзіла падсумаванне польска-беларускага мастацкага праекта. З гэтай нагоды таленавітая моладзь абедзвюх краін, а таксама мясцовая і прыезджая публіка мелі нагоду паслухаць супольны канцэрт у выкананні гайнаўскага „Рэха пушчы" і крынскай „Зараніцы".

— Ці часта адбываюцца ў вас такія мерапрыемствы? — запыталі Тамаша Віснеўскага госці з Варшавы.

— Так, наступнае будзе ў бліжэйшы аўторак.

— Але ўжо без нас, — кажа адна са спявачак.

— Тады мы тут непатрэбны, — завяршаюць размову варшавякі.

Ужо тры гады цвіце сяброўства гайнаўскага „Рэха пушчы" з беларускімі Крынкамі. Мабыць, дзякуючы гэтаму кантакту крынская „Тэрра інкогніта" змагла пераадолець найцяжэйшыя хвіліны сваёй дзейнасці. Будзем спадзявацца, што сардэчныя сувязі застануцца яшчэ на многія леты.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

1 ☞ працяг

## Пераплятанне трагедыі

разамнуць алкаголем і нацкаваць супраць другога брата. Гэтак жа, як людовае войска было нацкавана супраць партызан АК.

Падкрэсліла:

— Наступствы маральнага пераламу тутэйшых адчуваюцца да сёння. Паказальным з'яўляецца выказванне аднаго з персанажаў у фільме Агнешкі Арнольд з вёскі Залешаны, спаленай атрадам «Бурага», які кажа: «Мы тут, на Падляшшы, сталі трусамі». Я хацела ўжывую дакрануцца да гэтай тканкі, адкуль вынікаюць тут сённяшнія польска-беларускія і беларуска-беларускія адносіны. Гэта была таксама мара Лявона Тарасэвіча. Калі б не ён і «Віла Сакрата», можа не дайшло б да гэтай рэалізацыі. Гэта спектакль сапраўды польска-беларускага пагранічча, але і іншага. Мы запрасілі хор з Краіны Баскаў (выступіць у Беластоку — М. Х.). Акцёры робяць вялікую працу, капаюцца ў дакументах.

І найбольш важнае:

— Наш спектакль — аб філасофіі быцця тутэйшым, вернасці месцу, з якога ты выйшаў, выхаванню, у якім ён вырас на гэтым пагранічччы, раздзяляльных лініях, вызначаных не толькі ў палітычным, і перш за ўсё ў чыста чалавечым плане, у якія ўкладваецца ідэалогія, аб штучным падзеле, які не дапускае да любога паразумення і аб гэтага наступствах.

Лявон Тарасэвіч аб задуме-мары пастаноўкі «Антыгоны» ў Крынках расказаў нам чатыры гады таму на адкрыцці выставкі сваіх прац у Лапічах. Цяпер прызнаўся:

— «Антыгона» з'яўляецца выдатным мостам паміж старажытнасцю і сучаснасцю. Гэтая эліністычная трагедыя і тая, у пасляваенных Крынках, лагічна ўзаемазвязаны. Гучаць тут пытанні аб маральнасці ўлады і яе адказнасці перад грамадствам. Гэтая тэма ставіцца заўсёды і паўсюдна.

Аб падрыхтоўцы да сцэнаграфічнага дэбюту (ён не толькі аўтар праекта трох'ярусная структуры 12 на 12 метраў , але і рэжысёр асвятлення):

— Я бараніўся ад сцэнаграфіі. Калі б не праект у Крынках, мабыць, ніколі я б ёй не заняўся. Прапанавалі мне стварыць сцэнаграфію да «Братоў Каразамавых» у тэатры ў Любліне, але неяк так атрымалася, што рэалізацыя не адбылася. Я, аднак, усталяваў дызайн-праект у Мастацкім ліцэі ў Супраслі, у рамках дыплома з тканіны, аснаваны на вершы Ежы Гарасымовіча і супрасльскіх фрэсках.

«Анты-гона» будзе адным з трох элементаў сёлетняга «Беларускага трыялога», ініцыяванага і працягванага да канца жыцця Сакратам Яновічам. Лявон Тарасэвіч — прадстаўнік Фонду «Віла Сакрата», арганізатара праекта, тлумачыць:

— Мы хацелі цяпер даць «Трыялогам» больш шырокую форму, каб былі яны не толькі літаратурнымі, але і мастацкімі ці якраз тэатральнымі. Будуць тры публічныя дыскусіі: строга літаратурная, культурная і палітычная.

У найбліжэйшыя пятніцу і суботу запланаваны м.інш. літаратурная дыскусія з удзелам Ігнацы Карповіча, Анджэя Стасюка, Уладзіміра Някляева і літаратурнага крытыка і паэта Сяргея Чыгрына са Слоніма, палітычная, з удзелам Вінцука Вячоркі, Адама Міхніка і Лешка Мачульскага ды паказ фільмаў пра Сакрата Яновіча, а таксама вернісаж перформера, стваральніка інсталяцый і фатаграфій Роберта Кусьміроўскага. У «Анты-гоне» акрамя тэксту Сафокла, выкарыстоўваецца тэкст літаратурнага кіраўніка Драмтэатра імя Вянгеркі Даны Лукасінскай, на аснове яе ўласных інтэрв'ю, гутаркі фатографа з «Вілы Сакрата» Паўла Грэся з Гарадка з жыхарамі наваколля Крынак і гістарычныя матэрыялы Інстытута нацыянальнай памяці, дакументальныя фільмы, песні памежжа, мясцовыя звычаі і абрады.

Пачатак крынскага паказу спектакля — гадзіна 20. Адкрыццё «Трыялога» — гадзіна 10 у былой сінагозе.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Даследаванні гарадзішча пад Трасцянкай

**Мясцовыя шукалі тут золата, немцы ў час Другой сусветнай вайны шведскіх крон. На гэтым месцы коні не хацелі пасвіцца, а людзі асцерагаліся, каб не стаць ахвярамі чартоўскіх штучак. Ці археолагам удасца адкрыць праўду аб таямнічым месцы ў Трасцянцы? Даследчыкі, якія займаюцца раннесярэднявечным гарадзішчам, падкрэсліваюць, што раскопкі прыносяць нечаканыя вынікі.**



Спадар Талярчык з суседам на месцы былога гарадзішча

## Народныя даследаванні

Трасцянка — вёска каля Саколкі, якая знаходзіцца на даўнім літоўска-руска-балцкім памежжы. Назву вёскі жыхары тлумачаць гэтым, што калісь Трасцянку акружаў з трох бакоў лес. Тры сцяны пушчы далі назву Трасцянка. Сёння гэта *Trzcianka*, аднак у лакальнай гаворцы існуе першапачатковая, працейшая для вымаўлення форма. Каб знайсці месца даўняга гарадзішча, трэба, едучы шашой з Саколкі ў Янава, павярнуць улева, пераехаць невялікую Трасцянку, у якой яшчэ захавалася драўляная забудова, а на ростані дарог перад лесам павярнуць у вузкую польную сцяжынку. Пераехаўшы некалькі метраў, з-за ўзгорка пакажацца блакітная хатка спадара Талярчыка — уласніка зямлі, на якой праць гаюцца археалагічныя раскопкі. За гаспадарчымі будынкамі адразу кідаецца ў вочы цікавая форма зямной паверхні. Невялікія ўзгоркі з аднаго боку адгароджаныя лесам, з другога — ракой Сакалдой. Сакалда пасля меліярацыі ў гэтым месцы больш напамінае роў, аднак яшчэ старэйшыя жыхары Трасцянкі памятаюць яе як вялікую раку.

— О, на гэтыя лугі ніхто канём не ўехаў, такія замахліска, багна былі, — успамінае сусед спадара Талярчыка. — Яшчэ нашыя дзяды расказвалі, што рака была глыбокая, а вясной то яшчэ вакол разлівалася, што тут цэлы год балоты былі. Не сохла.

Жыхары Трасцянкі пацвярджаюць словы археолагаў аб існаванні ў іх вёсцы сярэднявечнага гарадзішча.

— З давён-даўна было вядома, што тут штосьці было, — дадае жыхар Трасцянкі. — Старыя ведалі. Гаварылі, што будынкі якіясьці былі, гарод нейкі.

Месца тое здавалася жыхарам Трасцянкі таямнічым і небяспечным да такой ступені, што вакол яго кружыла многа міфаў. Адны гаварылі, што на ўзгорку апоўначы прапальвалася золата. Другія памяталі, што коні не хацелі пасвіцца.

— Было і так, — успамінае спадарыня Талярчык, — што як скосіш гэты луг на ўзгорку, сена скдадзеш у капіцы — а такая работа цяжкая! — стомішся, ляжаш і не паспееш добра заснуць як узгорку скіне цябе з узгорка.

Аб месцы было настолькі гучна, што нават нямецкія жаўнеры ў час Другой сусветнай вайны перакопвалі ўзгорак, каб штосьці знайсці. Паводле жыхароў Трасцянкі немцы шукалі шведскіх крон, якія нібыта там былі схаваны. Сёння, пакуль што, ніхто не можа капаць на ўзгорку. Нават уласнік зямлі, спадар Талярчык. Асобамі, якія могуць весці працы на гэтай тэрыторыі, з'яўляюцца выключна археолагі.

## Археалагічныя даследаванні

— Звесткі аб існаванні паселішча ў ваколіцы Трасцянкі можна знайсці ў крыніцах з 1895 года, — кажа вядучая раскопкі Уршуля Станкевіч з Падляшскага музея. — Даследаванні гэтага абшару пачалі ўжо навукоўцы ў міжваенны перыяд, аднак па розных прычынах працы над гарадзішчам спыніліся.

Археолагі з Падляшскага музея ў Беластоку занялiся гарадзішчам нанава ў 2005 годзе. На невялікай плошчы (каля 44 сотак) удалося знайсці наканечнікі стрэл, дзід, фрагменты сякеры, кавалкі ганчарнай керамікі, біжутэрыю і незлічоную колькасць костак жывёл.

Паводле археолагаў гарадзішча засяляла ад трыццаці да пяцідзесяці чалавек. Навукоўцы з упэўненасцю сцвярджаюць, што гэтае месца заселенае было славянамі.

— Не ведаем ці на аснове сабраных намі матэрыялаў і гэтага, што магчыма яшчэ ўдасца нам знайсці, будзем маглі ўвогуле сцвердзіць ці былі гэта славяне з Усходу ці з Захаду.

На месцы гарадзішча археолагі знайшлі абвугленыя дрэвы, якія былі выкарыстаны да абарончых збудаванняў. Частакол меў тры метры вышыні, драўніна, з якога быў ён зроблены, пахо-дзіць з IX ст. Гэта, верагодна, час паўстання гарадзішча. Паводле археолагаў абвугленыя часткі пабудовы сведчаць аб тым, што паселішча было спалена варожым племем. Акрамя таго разважэнне знойдзеных наканечнікаў стрэл можа сведчыць аб тым, што захопнікамі былі выхадцы з Поўначы. Верагодна маглі быць гэта нават вікінгі. Аднак вядучая раскопкі археолаг Уршуля Станкевіч пакуль што з асцярожнасцю адказвае на дэталёвыя пытанні.

— Трэба памятаць, што тады польская дзяржава фарміруецца, Мецлаў імкнецца стварыць уласны цэнтр на Мазоўшы, Яраслаў Мудры таксама намагаецца як мага больш зямель заняць для Русі. Многасць падзей на памежжы перашкаджае нам адназначна адказаць на шматлікія пытанні. Менавіта цяжка сказаць, хто напаў на гарадзішча ў Трасцянцы.

Каштоўным адкрыццём былі таксама дырхемы — арабскія манеты, якія сведчаць што гэтыя землі насялялі багатыя людзі, а самое гарадзішча мусіла адыгрываць важную ролю ў гандлі.

Магчыма, адна з галін гандлёвага шляху з варагаў у грэкі магла сягаць нават у гэтыя ваколіцы, — кажа Уршуля Станкевіч. — Магчыма, што вёў туды іншы гандлёвы шлях, які спалучаў Балцкае мора, Русь з Усходнім халіфатам.

Пытанняў застаецца многа, а далейшыя працы, якія магчыма давядуць да нейкіх новых высноваў, пачнуцца пасля таго, як сяляне збяруць з палёў ураджай. Аднак гэтае археалагічнае адкрыццё лічыцца адным з самых цікавейшых і значных не толькі на Падляшшы, але і ў маштабе цэлай Польшчы.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

## Новыя прыстрэшкі

**У пачатку жніўня гэтага года два новыя прыгожыя прыстрэшкі аддалі ў карыстанне на прыпынку аўтобусаў ПКС у Нараўцы (Гайнаўскі павет). Цяпер новыя пачакальні ёсць у 11 вёсках у гэтай гміне. Вельмі прыдадуцца яны для пасажыраў у асенне-зімні перыяд.**

**(яц)**



Фота Янкі Целушэцкага

## 140 год чыгункі Адэса — Крулевец

Філатэлістычны гуртоку Чаромсе існуе ўжо 41 год. Заснавальнікам і заадно апекуном арганізацыі з'яўляецца настаўніца-пенсіянер Надзея Суліма. Яна — выдатны педагог, нястомная змагарка за чаромхаўскую чыгунку, старшыня таварыства „Прыязны транспарт", старшыня Рады гміны. Чаромхаўскія філатэлісты ўдзельнічалі ва ўсіх выпусках агульнапольскага філатэлістычнага конкурсу, актыўна супрацоўнічаюць з партнёрамі ў Беларусі. Па ініцыятыве Надзеі Сулімы 8 жніўня была арганізавана Польска-беларуская маладзёжная філатэлістычная выстаўка „140 год чыгункі Адэса — Крулевец". Для Чаромхі гэта рэч небывалая, падзея годная ўвагі.

Выстаўка адкрылася ў зале Гміннага цэнтра культуры. На сарака трох таблiцах скрупулёзна апісаных экспанатаў адлюстраваны мінулыя падзеі і перамены ў розных галінах грамадскага жыцця. Пра гэта задбалі маладыя філатэлісты з Польшчы і Беларусі.

— Каб не гэтая выстаўка, — гаварыў старшыня Польскага саюза філатэлістаў Генрык Монкас, — мабыць многія з нас не ведалі б, дзе Чаромха знаходзіцца. — Кожная такая падзея мае свайго лідара. У гісторыі ПСФ арганізатарам выстаўкі такога рангу — міжнароднай, маладзёжнай — упершыню з'яўляецца апякун маладзёжнага філатэлістычнага гуртка, аддадзены справе чалавек — Надзея Суліма.



*Старшыня Генрык Монкас*

— З Чаромхай супрацоўнічаем з 1996 года, — канстатаваў Фрыдэрык Гушча — старшыня Гродзенскага абласнога таварыства філатэлістаў. — На Беларусі не было аніводнай выстаўкі, каб Чаромха не ўдзельнічала. У Брэсце, Гомелі і Магілёве, два разы ў Мінску, тры або чатыры разы ў Гародні. Нядаўна мы арганізавалі выставу, прысвечаную 85-годдзю Гродзенскага заапарку. Юная філатэлістка з Чаромхі Марыя Тарасюк атрымала медаль і прахадны кубак.

— Выстава з'яўляецца нагодай для добрага міжсуседскага супрацоўніцтва, — канстатаваў консул Беларусі Аляксандар Супораў. — Асноўнай справай з'яўляецца тое, што маторам гэтага супрацоўніцтва з'яўляецца моладзь абедзвюх краін, Польшчы і Беларусі. Гэта не першае супольнае мерапрыемства. Лічу на чарговыя, бо нашы народы яднаюцца. Неўзабаве будзе здадзены ў карыстанне суперсучасны пагранпераход у Полаўцах. Пра Чаромху зноў будзе гучна ў краіне. Спадзяюся, што пасля здачы ў карыстанне новага тэрмінала пабольшае асабовы рух. Мабыць рушаць і чыгуначныя спалучэнні...

— Дзякую арганізатарам і суарганізатарам выставы за іх карпатлівую працу. Цешыцца трэба, што Чаромха мае такіх людзей, як спадарыня Надзея Суліма, — канстатаваў у заканчэнні войт Ежы Шыкула. — Ганарымся тым і для такіх людзей належыцца пашана.

У час выстаўкі можна было купіць адпаведныя акалічнасці паштовыя карты з адпаведным штампам. Пасля прэзентацыі афіцыйнай часткі госці сустрэліся на супольным пачастунку пры гарбаце.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Першы дзень у школе



Настаўнікі беластоцкай „чацвёркі”

2 верасня. Панядзелак. На школьнай пляцоўцы сабралася прыстойная грамада дашкольнікаў і першакласнікаў. За момант дырэктар Збігнеў Клімовіч прывітае дзяцей і іх бацькоў. Хоць на двары халаднавата, усіх грэе радаснае хваляванне. Першы дзень у школе — незабыўны. Памятаем яго ўсё жыццё. У грамадзе нашыя сябры — навучэнцы беларускай мовы. Прыйшлі ў „чацвёрку” следам старэйшых сястрычак і брацікаў. Так як Міхась Бількевіч — самы высокі хлопец у класе. Міхась нікога не баіцца. Жартуе і сваволіць, быццам усіх тут ведае. Праўда, у класе яго сябры з беларускага прадшколля.

Па прычыне навучэнцаў беларускай мовы дырэктар называе першы „а” клас — беларускім. Павядзе яго настаўніца Эва Мураўская.

— Гэта значыць, што ўсе ў класе будуць вывучаць мову? — пытае нехта з бацькоў.

— Не, гэта датычыць тых дзяцей, якіх запісаліся на ўрокі, — падясняюць зацікаўленай маме іншыя бацькі. — Беларуская мова для тых, хто жадае яе вывучаць...

— А вы запісаліся? — зноў дапытваецца мама.

— Яшчэ не, — кажуць тыя, — але пабачым, можа запішам.

У школе добрая атмасфера для вывучэння беларускай мовы. Апрача ўрокаў тут многа дадатковых беларускіх гурткоў: тэатральныя, музычныя, мастацкія. Да навучэнцаў прыязджаюць важныя госці. Вось у мінулым годзе іх наведаў сам прэзідэнт горада Беластока Тадэвуш Трускаляскі.

— У нас будуць працаваць чатыры або пяць тэатральных гурткоў, — кажа Аліна Ваўранюк, настаўніца беларускай мовы.

Аліна Ваўранюк — аўтарка падручніка „Лямантар” для другога класа. Разам з пачаткам года кніжка трапіла ў нашыя школы на Падляшшы. Настаўніца ў супрацоўніцтве з прафесійнымі музыкантамі падрыхтавала таксама музычны матэрыял для першага і другога класаў. Запісы на асобным дыску будуць скарыстоўвацца ў якасці дапаможнікаў. Песні спяваюць менавіта дзеткі з „чацвёркі”.



Ад верасня даходзіць дадатковы ўрок беларускай мовы ў адным класе. Такім чынам у пачатковай школе вучні чацвёртых класаў будуць мець чатыры гадзіны для вывучэння роднай мовы. Кожны настаўнік можа прыдумаць аўтарскі канцэпт вядзення ўрокаў.

— Ці маеце ўжо ідэю гэтых урокаў? — спыталі мы ў настаўніцы.

— Мы хочам пазнаёміцца з гісторыяй беларусаў у Беластоку, — кажа Аліна Ваўранюк. — А таксама будзем гаварыць пра іншыя нацыянальныя меншасці ў нашым горадзе.

У беластоцкай „чацвёрцы” да васьмідзесяці навучэнцаў беларускай мовы. У першы клас запісалася адзінаццаць дзяцей.

— Цяжка пакуль гаварыць пра канкрэтны лік навучэнцаў, — кажа настаўніца. — У нас, напрыклад, дайшлі вучні старэйшых класаў.

Яшчэ перад агульнай сустрэчай многія прыйшлі ў беларускі клас, каб прывітацца з настаўніцай. Таксама бацькі пыталі пра беларускі малебен, які заказваюць на пачатку і ў канцы школьнага года. Адзін трэцякласнік, які завітаў у клас з мамай, з радасцю разглядаўся па класе. На пытанне, ці хочацца ў школу, адказаў стрымана, як сапраўдны мужчына:

— Ну, трохі хочацца!

**ЗОРКА**

**Фота Ганны Кандрацюк**

# Восень

Залатая восень прыйшла,
імгла поле абняла.
Цёмныя хмары сонца засланілі,
лісты з дрэваў зямлю закрылі.
Звяры шыкуюцца на зіму,
каб праспаць пад снежнай пярынай.
Ляцяць гусі і жураўлі
на поўдзень нашай Зямлі.
Намнога меншыя ўжо дні
і бліжэй белай зімы.

**Аляксандра ЯРОЦКАЯ, Гарадок**

## Вершы Віктара Шведа

### У Мікалая два папугаі

Пачулі ад Мікалая:
— Я маю два папугаі.
— А навошта табе столькі?
— Патрэбныя мне, — кажа Колька.

Адзін папугай, каторы
Па-англійску гаворыць.
А другі з папугаяў —
Размову перакладае.

### Множны лік

Настаўнік дзяцей нудзіць,
Да адказу паклікаў:
— Як назоўнік „чалавек” будзе
У множным ліку?

Дзеці адказваюць: — „Людзі”.
— Ну, а „дзіця” як будзе?
Тут адказ быў Ігната:
— У множным ліку „блізняты”.

# Грыбы ў горадзе

*(апавяданне-загадка)*

Раніцай дзядуля будзіць унука:

— Уставай, Максімка. Грыбны дождж пайшоў. Грыбоў насеяў!

Грыбоў і сапраўды ў лесе было шмат. Неўзабаве Максімка з дзедам набралі поўны кошык падасінавікоў, абабак, лісічак. Знайшлі нават сем баравікоў.

— Дзядуля, а што, у горадзе іншы дождж ідзе?

— Як гэта іншы? — не зразумеў дзядуля.

— Калі дождж на лес пайшоў, дык грыбоў насеяў. А калі на горад?.. — дапытваўся Максімка.

— У горадзе таксама грыбы бываюць, — усміхнуўся дзядуля. — Рознаколерныя: чырвоныя, зялёныя, сінія, блакітныя... Яны з'яўляюцца на тратуарах, як толькі пачынаецца дождж.

Задумаўся ўнук. Пра якія грыбы гаворыць дзядуля?

— Вялікія, яны хаваюць людзей ад дажджу, — падказвае дзядуля. — Гэтых грыбоў ніхто нажом не зрэзвае, у кошык не кладзе. Пройдзе дождж — адразу самі знікаюць.

— А я ведаю, пра якія грыбы ты гаворыш! — хітравата прыжмурыўся Максімка.

І вы ўжо напэўна здагадаліся, дзеці?..

**Р. Бензярук.**

*Ад рэдакцыі: Адказ на загадку дашліце да 15 верасня г.г. Найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.*

# Тры бярозы

*(пачатак у № 34)*

На другі дзень лялькі і мядзведзікі разбудзілі Алесю і Кандрата.

— Алеся, чуеш? — здзівіўся брацік. — Нашыя лялькі гавораць як людзі...

— Ну што ты, Кандрат, лялькі не размаўляюць!

— А мы размаўляем! — заявіў нясмела адзін з мядзведзікаў.

— Якое цуда! — захапілася Алеся. — Тады ходзьце з намі пагуляць на двор.

Дзеці і цацкі выйшлі з хаты і пабачылі магазін з другога боку вуліцы. Перад імі адкрыліся дзверы памаляваныя на жоўты колер з чырвонымі кропкамі. Калі пераступілі парог, перад іх вачыма адкрылася казачная краіна. Гэта была вёска. Усе хаткі былі пабудаваны з цукеркаў і шакаладу. У паветры пахла цукровай ватай.

— Гэта наш сюрпрыз, — сказалі цацкі Алесі і Кандрату.

— Я не веру сваім вачам! — крыкнула захопленая дзяўчынка.

— А ці можна туды ўвайсці? — запытаўся брацік.

— Вядома, можаце. Запрашаем вас! — Ночка павяла за сабой дзяцей і ўсю кампанію.

Усе добра гулялі пакуль лялькі не папрасілі прабачэння ў кампаніі:

— Ах дубы-дубочкі, нам трэба ўжо развітацца!

— Да пабачэння, прыгажуні! — адказалі мядзведзікі-дубы.

Што тут казаць — без лялек стала неяк сумна. Хоць мядзведзікі забаўлялі дзяцей як маглі, яны хутка стаміліся і папрасілі вяртацца дамоў. Яны вярнуліся дахаты і заснулі нейкім чароўным сном. Тым часам лялькі рушылі ў вёску да людзей. Яны пастукалі ў дзверы старэнькай хаткі, у якой жыла чараўніца...

*(працяг будзе)*

*Вераніка Кардзюкевіч і Габрыеля Торка — вучаніцы Непублічнай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.*



Першакласнікаў вітае віцэ-дырэктар Іаланта Кузьміцкая



Клас I а з выхавацелькай Эвай Мураўскай

**Міра ЛУКША**

# Грыбы

*Распанелы баравік*
*хваліўся пад веткай:*
*„Вось дык я — белы грыб!*
*Рэшта — адны бэткі!*

*І казлюк, і махавік,*
*і масляк разлезлы...”*
*Гарлапаніў — ў кашы знік.*
*І іншыя ўлезлі.*

*Уся кампанія грыбкоў*
*у кошыку ўмята.*
*Хочацца назад, дамоў...*
*Ды карэньчык сцяты.*

*Уздыхае маслячок:*
*Вось яшчэ пажыў бы!*
*Хай бы нават чарвячок*
*у госці прыбыў бы!*

*Баравік таксама сціх,*
*капялюх на носе...*
*Адзін лёс у нас усіх,*
*на талерцы, у соўсе,*

*На патэльні, у слаях...*
*У марынадзе, супе...*
*Хто ядомы ў лясах,*
*лёсу не падкупіць.*

*А застаўся „воўчы” грыб*
*(і воўк яго не хоча),*
*да ваўнячкі прылiп,*
*мухамор рагоча...*

*Каму смех, каму грэх.*
*Туліць лес сыночкаў.*
*Неўзабаве ўпадзе снег,*
*схавае й грыбочкі.*

# Польска-беларуская крыжаванка № 36

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 32:**

Салата, Ас, штат, душа, дэпо, папера, парк, тры, астра. Спад, жупан, шар, шапка, кадр, тэатр, грошы. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Магда Хвашчэўская** і **Анджэліка Сцепанюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Dar, Cudak, Pina, Potrawa, Akacja, Kapusta, Sto, Woda, Liczba, Pomidor, Cena, Ala, Wygląd, Rynek, Powieść, Rzeka



# Пратулінская Кальварыя

Храм-музей у Пратуліне

Вяртаючыся нядаўна з Крушынян, звярнуў я ўвагу на паказальнік мясцовасці Трасцяно — *Trzciano*. Літары „ас" афіцыйны правапіс падмяніў літарай „z". Калі б гэтакую метамарфозу прымяніць да рэчкі *Krzna*, што ўліваецца ў Буг каля згадваных мною раней Нэпляў, дык можна было б экстрапаліраваць ранейшую назву гэтай рэчкі, падмяняючы „z" на „ас" — *Красна*. Дарэчы, падобны тапанімічны збой кранае і ўпадаючую ў Буг з супрацьлеглага боку рэчку Лясную, што мае крыніцы каля Гайнаўкі: яна ў польскай тапаніміі выступае часта пад назвай *Lśna*... Падобныя на тапанімічныя збоі можна сустрэць таксама і ў апісанні навакольнай даўніны.

Недалёка ад Нэпляў знаходзіцца вёска Крычаў, а ў ёй пабудаваная ў 1683 годзе царкоўка. Была яна спачатку ўніяцкай, у 1870-х гадах „прыняла" праваслаўе, а ў 1919 годзе стала каталіцкім філіяльным касцёлам парафіі ў Нэплях. Зараз за храмам стаіць гранічны слуп, а за ім абрыў ракі Буг. Перад касцёлам валун з інфармацыяй, што па рэчцы плыў Тадэвуш Касцюшка, кіруючыся ў Злучаныя Штаты Амерыкі змагацца там за „нашу і вашу свабоду". На стэндзе навонкі касцёла прыбіта картачка з інфармацыяй, што храм спачатку быў прысвечаны святому мучаніку Дзмітрыю, а пасля рамонту заступнікам царкоўкі быў назначаны святы Юры Пераможца. А на сцяне касцёла, побач увахода, дзве дошкі, на якіх — на адной на польскай, а на другой на царкоўнаславянскай мовах — пададзена інфармацыя, што там быў ахрышчаны блажэнны мучанік Вінцэнт Леванюк. Царкоўнаславянская мова тут невыпадковая — гэта элемент неавуніянага праекта...

Вінцэнт Леванюк стаў вядучай фігурай мясцовага канфесійнага змагання. Менавіта, пасля Студзеньскага паўстання царскія ўлады сталі ліквідаваць царкоўную унію на тэрыторыі Каралеўства Польскага. Ліквідацыя гэтая адбывалася з прымяненнем сілавых прыёмаў, бо шматлікія ўніяты не хацелі прымаць праваслаўнага абраду. Найбольш жорсткія падзеі адбыліся ў адлеглым на некалькі кіламетраў ад Крычава Пратуліне. Тамашні ўніяцкі святар з'ехаў у Галіччыну, а на яго месца ў пратулінскую царкву ўлады прызначылі праваслаўнага святара. Мясцовыя вернікі не прапускалі яго ў царкву. Прыехалі карнікі, якія сталі страляць да вернікаў, забіваючы трынаццаць асоб і ранячы каля ста васьмідзесяці. Падзея адбылася 24 студзеня 1874 года, у найбольшыя маразы...

Зараз у Пратуліне адмысловы санктуарый, прысвечаны мучанікам — ахвярам падзей 1874 года. Апальная царква, вакол якой разыгралася крывавая драма, была знесена царскімі ўладамі ў 1880-х гадах. Захаваліся ад яе толькі фрагменты падмурка, над якімі ў 2009-2012 гадах быў узведзены храм-музей. У падлозе гэтага храма выразана адтуліна, пад якою захаваныя фрагменты падмурка даўняй пратулінскай царквы, узведзенай у 1852 годзе; прыход быў там заснаваны ў 1676 годзе. На сценах храмавага інтэр'ера інфармацыйныя дошкі, якія знаёмяць наведвальнікаў з тамашняй гісторыяй.

Стэнд: „**Podlasie, (...) jako ziemia pogranicza, odznaczało się zróżnicowaniem etnicznym, a co za tym idzie również kulturowym i religijnym. W jego zachodniej części silniejsze były wpływy Kościoła rzymskokatolickiego, na wschodzie natomiast Cerkwi prawosławnej, która po podpisaniu w 1596 r. Unii Brzeskiej przekształciła się w Kościół unicki. W ten sposób rozpoczęła się koegzystencja tradycji chrześcijańskiego Wschodu i Zachodu w ramach jednego Kościoła katolickiego. Duże znaczenie dla rozwoju Kościoła miał jego synod, który odbył się w 1720 r. w Zamościu. Podjęte na nim reformy w strukturach organizacyjnych, naukach teologicznych, a także liturgii sprawiały, że tracił on wschodni charakter. Zmiany te i latynizacja uwidoczniły się również w architekturze i sztuce sakralnej**".

І далей: „**Pierwsza fala represji za Powstanie Styczniowe spadła na podlaskich unitów w latach 1866-68. Władze carskie przy współpracy z Cerkwią prawosławną rozpoczęły „oczyszczanie cerkwi unickiej z naleciałości łacińskich". Oznaczało to usuwanie z unickich świątyń ołtarzy, organów, chorągwi oraz zastępowanie języka polskiego rosyjskim**".

Значыць, царскія ўлады сталі выкараняць пастановы Замойскага сінода. А трэба тут адзначыць, што тыя пастановы не надта супадалі з духам Брэсцкай уніі. Яшчэ ў 1615 годзе папа Павел V у адмысловым брэве пісаў: „**Zostaliśmy uwiadomieni, iż znayduią sie tacy, którzy albo rzeczy niewiadomi, albo od innych w opaczne mniemanie i błąd wprowadzeni, rozumieią i za pewną rzecz zatwierdzaią, iakoby Kościół Rzymski przez wspomnione ziednoczenie, ich obrządki i Ceremonie, przy odprawianiu Nabożeństw i Administrowaniu Sakramentów zachowywać się zwykłe, znieść i uchylić zamyślał i żądał; z przyczyny których różne pogorszenia dzieią się: Dla czego My z obowiązku Pasterstwa naszego, opacznym takowym mniemaniom zapobiedz usilnie pragnąc, chcąc oraz aby podobny błąd zupełnie z umysłów ludzkich został wykorzenionym, i występki ztąd wynikaiące ustały, (...) deklaruiemy i oznaczamy: iż nie było i nie iest zamiarem Kościoła Rzymskiego, iżby przez wspomnione złączenie i przyięcie do Unji, obrządki i Ceremonie święte, których Biskupi Ruscy i Duchowieństwo, podług podania Ojców Świętych Greckich, przy Nabożeństwach, Mszach Świętych, oraz rozdawaniu Sakramentów, i innych powinnościach używaią (...) znosić i uchylać miał. (...) Obrządki i ceremonie przy wspomnionym złączeniu, wzmiankowanym Biskupom Ruskim i Duchowieństwu, nienaruszenie przez Stolicę Apostolską zachowane i dozwolone zostały**".







Дэталі крычаўскага храма

Расійскі „Вестник Западной России" з 1862 года прыводзіў быў вытрымкі з езуіцкага дакумента ад 1717 года: „**Jeżeli całość i bezpieczeństwo państw na wzaiemney obywatelów funduie się miłości, miłość zaś nayszczególniey utrzymana bywa iednością wiary: toć my Polacy, chcąc bydź w swoim ocaleni i ubezpieczeni państwie, o jedność w mieszkańcach wiary z naywiększą starać się mamy i powinniśmy usilnością. Że zaś iedność ta w kraiach Ruskich, tak do Korony iako do Wielkiego xięstwa Litewskiego należących, naybardziey psować zdaie się, ile w prostym ludzie obrządków różność: zaczem stany królewstwa i każdy w szczególności Polak, ieżeli chce ocalić i ubezpieczyć oyczyznę, ten na siebie włożyć powinien obowiązek, ażeby obrządek Grecki, obrządkowi Łacińskiemu przeciwny, iuż to wzgardą, iuż prześladowaniem, iuż uciśnieniem tenże zachowuiących, iuż innemi, ile bydź może, nayskutecznieyszymi znosił sposobami**".

Магчыма, што прыведзены тут дакумент з'яўляецца фальсіфікатам, але ж папскія лісты здаюцца сведчыць пра яго верагоднасць. Вось фрагмент чаргавага брэве з 1670 года: „**S. Kongregacya postanowiła, iż biiący Xięży Ruskich Unitów, klątwie podpadaią. Gdyż namienieni Xięża i Klerycy temiż przywilejami Kanonu, Sądu, wolności i wyłączeń są zaszczyceni, iakie Klerykom i Xiężom Łacińskiego Obrządku są dozwolone**".

Дарэчы, адносіны папства і польскага духавенства да ўсходняга абраду былі розныя, бо гэтыя суб'екты кіраваліся рознымі мэтамі. Стэнд: „**W 1918 r., po niemal dwustu latach niewoli, Polska odzyskała niepodległość. Rozpoczął się niezwykle trudny proces budowania struktur państwa, obrony granic oraz układania stosunków narodowościowych i religijnych. Szczególnie trudne były stosunki społeczno-religijne na kresach południowo-wschodnich. Konflikt religijno-narodowy w Galicji miał wpływ na dążenia biskupa siedleckiego Henryka Przeździeckiego, zmierzającego do odbudowania kościoła unickiego na Podlasiu i Polesiu. Władze obawiały się, że podobnie jak w wypadku Ukraińców, spowoduje to wzrost świadomości narodowej Białorusinów. Jednak projekt biskupa został zatwierdzony przez papieża Piusa XI. Utworzony w 1924 r. Kościół katolicki obrządku bizantyjsko-słowiańskiego (neounicki) niewiele różnił sie w liturgii od rytu prawosławnego. Językiem liturgii pozostawał język cerkiewnosłowiański**".

Стэнд згадвае пра дзейнасць біскупа Пшаздзецкага ў 1920-х гадах, аднак маўчыць пра яго гарачы парыў крыху раней, калі ён павална перавёў бадай усе ранейшыя ўніяцкія прыходы на тэрыторыі сваёй дыяцэзіі ў каталіцтва. І хіба атрымаў ён немалы нагаляй з Рыма, дзе папства мела намнога шырэйшыя празелітычныя праекты на Усходзе. З гэтага, мабыць, і асталася царкоўнаславянская памятка на крычаўскім храме.

Перад Пратулінам стаіць прыдарожны паказальнік уніяцкіх магілак. Пайшоў я па падказанай лясной дарожцы. І выйшаў на ўчастак, дзе знаходзіцца толькі помнік на месцы пахавання трынаццаці пратулінскіх мучанікаў. Яны пакоіліся там з моманту сваёй трагічнай смерці ў 1874 годзе да 1990 года, калі іх астанкі былі ўскладзены ў адмысловую дамавіну і перанесены ў мясцовы касцёл у якасці рэліквій, а шэсць гадоў пазней папа Ян Павел II прылічыў іх у лік блаславёных. З месца колішняга ўніяцкага храма да месца іх шматгадовага спачыну пракладзена крыжовая дарога, дзе ў часоўнях узведзены фігуры звышчалавечага росту. Непадалёк ад храма-музея знаходзіцца ларок з прадметамі рэлігійнага культу. Спытаў я там пра нейкую кнігу пра тамашнія падзеі, але адзінай сэнсоўнай кніжачкай была „**Z ziemi chełmskiej**" Рэйманта, якая была напісана адно толькі „**ku pokrzepieniu serc**"...

Не толькі ў Пратуліне, але ў розных месцах і ў розны час розныя суб'екты, не толькі польскія, расійскія ці папскія, праводзяць свае больш-менш глабалізацыйныя праекты. І яны абыходзяцца розным коштам, пакідаючы за сабою рознага маштабу кальварыі.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

**15 гадоў таму 2 верасня 1998 года на 67 годзе жыцця памёр журналіст „Нівы” фалькларыст, пісьменнік, гісторык Мікола Гайдук. Дзеля памяці гэтага заслужанага для беларускай справы чалавека друкуем ягонае апавяданне.**



Мікола Гайдук

# Трызна

*Грозно бо бяше и жалостно тогда видети, зане трава кровью пролита, а древеса тугою к земле преклонишася.* („Задонштчына”)

Па такім ранку, шэрым ды імглістым, што здараюцца пад канец лета, пра ўвесь дзень судзіць можна: як заўтра імжа долам лажыцца — дзень пагожы стане; калі ж туман верхам пойдзе — быць дажджу пасля поўдня.

Ён, стары дзесяцкі Яцук, мяркуючы пра настаўшы дзень, паволі брыдзе з грыдніцы цераз дзядзінец. Падстаўляе сваю здратаваную мазалямі ды рысамі чэрствую далонь пад падаючую імжу і кіруецца ў бок лесвіцы, што вядзе на пляцоўку старажавой вежы.

Юрась ля стайні глянцуе глінкаю і аўчынкай медную акоўку збруі. І так медзь у тумане зззяе сонечнымі блікамі, а ён усё трэ і трэ. Які ж гэты Юрась за апошні час ладны стаў: высокі, плечы ўшыр раздаліся, здаровы румянец барвіць шчаку, бы першы прымаразак спелую каліну. Мяккі пухкі волас над вуснамі і па барадзе зачарнеў. Статны з яго муж будзе, па бацьку, відаць, пайшоў!

— Дзядзь, чаго ж на вежу лезці, і так на два сажні нічога не відаць, — заўважае яму Юрась.

І голас-то ў яго мужны: глыбокі і цвёрды. А ці ж даўно гэта ён, Яцук, з уцехі, тройчы пускаў у круг свой каваны рог турыны, частаваў сяброў-грыдзяў хмяльным мёдам ды настойкамі, калі вестка з цвердзі, з Суража, прыйшла, што яго дачка Мілошка павіла воя-ўнука. Дамоў на дзень-два вырвацца хацеў, бо сын жа быў недзе ў палку з князем. Але дзе ж яму, тадышняму валадару Нарвы, крэпасць пакінуць: полая вада ішла — трэба было дубовыя калоды з пушчы гнаць, каб сцены крэпасці падправіць ды падняць на некалькі вянцоў вышэй...

Ніяк ужо дваццаты год ідзе, як было тое, а ўсё здаецца, быццам гэта ўчора.

— Бач, унуча, — гаворыць як бы са сваімі думамі-ўспамінамі Яцук, — старыя ногі самі, па звычцы, на лесвіцу нясуць. Не мала ж ужо — гадоў трыццаць так, з дня ў дзень, хаджу. І, скажу табе, шмат чаго ўбачыў, нават і ў такой каламуці.

— Э, там! — недаверліва азваўся Юрась. — Яцвяга і пры сонцы цяжка ў кустах прыкмеціць. А то...

— Ну-ну, — спыняе ён унука, узыходзячы на пляцоўку вежы, што сажняў на пяць узвышаецца над варотамі крэпасці, прыкрытая счарнелымі ад дажджоў і сонца асінавымі драніцамі. — Гадоў шэсць таму, гэта як твае пастрыжыны былі, а я не то што ўдзень, а ўночы цэлы ізгон яцвяжскі прыўважыў. — Яцук ведае, што колькі ўжо разоў гаварыў пра гэта Юрасю, але не шкодзіць, здаецца, яшчэ лішні раз напомніць пра тое. — Скочылі мы тады на коней ды стралой да броду. Вось тут, па плыцізнах, — і ён, выхіліўшыся з-пад дашку вежы, паказвае рукой туды, дзе праз малочную муць імглы паблісквае Нарва, — секанулі мы іх. Заднія то адразу павярнулі, хвасты паказаўшы. А ўсё ж мы некалькі жыўцом узялі, а чалавек шэсць вунь, на тым беразе, і па сёння пад крушняй спачывае...

Што гэта?.. Няўжо? Забыўшыся пра ўсё, ён упіваецца зрокам у праціглегы бераг, і ў прорве паміж зваламі імглы, на пясчаным рачным адкосе... Не можа быць! Гэта хіба пад старасць трызненні мучыць сталі... Варушацца... Яны, так, яны: у бабровых ворсістых башлыках, лісіх, відаць, нарутках, прыкрытыя шчытамі. І многа ж іх, дзесяткаў шэсць на беразе і яшчэ прыбываюць з лесу...

Трымціць рука ад трывожнага лёскату трашчоткі. І ўсё ж не верыцца яшчэ, ці гэта на самой справе яны. Нешта пякуча ўпіваецца ў руку вышэй локця, і рука бязвольна выпускае трашчотку.

— Яцвягі!.. Братцы, яцвягі, — крычыць ён дзікім голасам. Злосна фуркочуць стрэлы, уядаюцца ў сцены, дашак, слупкі пляцоўкі. Ужо лежачы плашмя на памосце, ён бачыць, як высыпалі з грыдніц на дзядзінец воі, як адрываецца з-пад лесу грамада коннікаў і мкне цераз брод да брамы крэпасці. Перасільваючы боль, ён крычыць:

— Браму! Браму падпірайце-е!..

Юрась было скочыў на лесвіцу, відаць, да яго хоча ўзлезці. І ён халадзее з жаху:

— Куды ты? Назад! Праніжуць цябе, як глушца...

І Юрась паслухаў, бяжыць разам з іншымі да брамы. Створкі брамы счэпліваюць жалезнымі крукамі, паспешна закладаюць у засаўкі дубовыя друкі. Сярод дзядзінца ўжо стаіць валадар крэпасці Міхаль.

— Маладыя браму самі гаціце, а стральцы да бойніц хутчэй! — крычыць ён і сам кідаецца з лукам і калчанам да бойніцы над брамай.

Стральцы з калчанамі стрэлаў, лукамі, доўбнямі ды мячамі паспешна ўзбіраюцца на падмосткі крапасной сцяны і разбягаюцца да прыадчыненых створак бойніц. Напружваюцца, чырванеюць іх твары, спешна штахаюць цяцівы лукаў, ляскаюць кушы, свішча каменне, выпушчанае з прашчаў... Значыць, паспелі, не ўпусцілі ў крэпасць. О, вялікі Сварожа, дзякуем табе за літасць над намі! Дзякуй табе, добры Сварожа...

Пячэ і церпне рука. Рукаў набрыняў крывёю. Страла прайшла навылет праз мякіш вышэй локця і затрымалася пяром. Трэба як мага хутчэй, пакуль не запухла, пераламаць брэхву стралы і выцягнуць яе. Каб памог хто. Не, ім цяпер не да таго. Мус самому. Звяло скіўцы, сплывае халоднымі кроплямі пот з чала, ліецца ў вочы, а ўваччу мітусяцца ружовыя іскрыстыя кругі. Не паддаецца брэхва, відаць, з грабу высек яе праклятьі язвец. Та-а-ак, пераламалася ўсё ж такі. Ну, цяпер трэба яе выцягнуць, зубамі. Трашчыць рука, боль молатам б'е ў скроні. Паволі, надта ж паволі выходзіць яна, ядавітая. Кроў цурком сцякае па пальцах, а рука зусім здранцвела, быццам чужая. О-ох! Выйшла, уся выйшла...

Ужо закручваючы і зацiскаючы рану разарваным рукавом кужэльнай кашулі, прыглядаецца да гэтага пашчапанага зубамі, закрываўленага кавалка дрэва. Колькі ж іх прашывала яго рукі, сцёгны, нават вуха, і ўсё ж такі духу не дасталі. І гэтая таксама, але хіба ж будзе і тая, суджаная, бо не паміраць яму сваёй смерцю...

Праз шчыліны вежы відаць, як спачатку паасобку, а потым групамі адскокваюць яцвяжскія коннікі ад крапасных сцен. Той-сёй з коней б'ецца пад ездаком, становіцца на дыбкі, іржэ — значыць, панёс у сабе стралу нашую. А вось цягнуць яцвягі і свайго родзіча. Забіты, відаць, так яму і трэба...

Ну, адбіліся мы.

Ля бойніц воі аддыхваюцца, уціраюць успацелыя твары, гамоняць. Дзяўчаты, маладзіцы ды падлеткі моўчкі, але ўсё подбегам, носяць і падаюць на падмосткі да бойніц пучкі стрэлаў, падсыпаюць прашчнікам у карабкі каменне. Старэйшыя жанчыны, тайком уціраючы набегшую слязу, разрабляюць ля крапаснога калодзежа з гліны і вады хлюпастую жыжу, носяць яе цэбрамі і гладышамі на сцяну і ліюць на вонкавыя бярвенні, каб агонь не так лёгка яе ўзяў ды і ворагу ўзбірацца не так лоўка было.

— Дзякуй табе, Яцук, што ў час трывогу падняў, а то б... — гамоняць, усхліпваючы, жанчыны. — Але ж што далей з намі будзе? Скот ды коні то ўсе нашы прапалі. Калі і адсядзімся, дык зноў гады тры нашы скотніцы пуставаць будуць. Дзе што якое — усё пехта і пехта, ці ў Бельск, ці ў Гародню. Ні малака табе, ні воўны. — Лямантуюць, усплясківаючы рукамі.

— І дало ж нам у такую рань дабро з цвердзі на выган пусціць...

Рознагалосы жаласлівы жаночы лямант пераходзіць у старадаўнюю песню-плач:

*Сварожа, Сварожа! Прыкрый нас, няшчасных.*

*Сварожа, Сварожа! Ахіні дзетак нашых.*

*Сварожа, Сварожа! Узмоцні сілы нашы.*

*Сварожа, Сварожа! Ад нас звядзі паганых...*

Воі, насупіўшыся, слухаюць, з-пад брыва сочаць праз шчыліну бойніц за ворагам.

Пасля няўдалага нападу на крэпасць знячэўку, яцвягі рассыпаюцца па выгане, арканяць коней, збіраюць у гурт быдла і авечкі ды кіруюць цераз брод на Нарве ў бок Блудаўскай пушчы.

— А мо сялікам і абыдзецца, — мяркуе ўголас прашчнік Мсцішка. — Не раз жа бывала, што, павярэдзіўшы, або вярталіся ў свае верві, або ішлі далей на Берасцень ці Дарагічын.

— Каб то ж! — уздыхае стралец Уней. — Тады б мы іх дазорылі: не вяртацца ім у іх Судовію з сайгатам. Не тое што на Супраслі, але і на Бабры насціглі б мы іх, паганых.

— Пашто ў згадкі пускацыся, — спыняе іх Міхаль. — Завялікая сіла іх тут прывапіла, каб толькі па нашае брашно. Сотня іх, а то і болей, — штосьці горшае ў іх на мыслі. Борза трэ ў Крушву, Бельск ды Гарадок весць падаць. Як імгла ляжа — падпальвай! — звяртаецца ён да Унея, паказваючы на віцуевы слуп, што ўзвышаецца сярод дзядзінца, увесь спавіты прасмоленымі саламянымі перавяслами.

— А ты, Юрась, ідзі да мяне, — загадвае ён і кіруецца ў грыдніцу.

Юрась лоўка саскоквае з падмостка бойніцы і бяжыць цераз дзядзінец у грыдніцу.

Згадкі нядобрыя халодзяць старое сэрца, а яно зусім пад горла цiснецца. Супакойся ты, стары, уйміся! Няўжо можа што-небудзь яму стацца? О, Сварожа! Цяжка караеш ты маю кроў, цяжка. Сынавы косці твае вятры-сухавеі недзе ў стэпах палавецкіх пылам крыюць, а цяпер ты хочаш згасіць адзінае сонца мае змрочнай старасці...

— Міхалю, Міхалю! Не пасылай дзіцяці, не пасылай, малю цябе, — а скупыя, пякучыя старэчыя слёзы так і ціснуцца ў вочы. — Зарэжуць яго, загубяць... — І ён, прысланіўшыся да касяка дзвярэй грыдніцы, засланяе далонню вочы.

— Чаго ты, дзядзь? — сунімае яго ўнук. — Не плач, не ўбівайся, прайду яклень.

— Суйміся, Яцук, — гаворыць ціха Міхаль. — Нужа мяне прымусіла пасылаць яго. Да стойбішча руднікаў як-небудзь дабярэцца, а там цераз Крушву ды ў Берасцень паскача. А нас тута, хто ведае, што чакаць можа.

Супакойся, стары, суцішся.

На дзядзінцы ўжо валадар загадвае прашчніку Мсцішку і стральцу Балібору выхіліцца патайным ходам з крэпасці, быццам на адбой статка, яцвягам, каб Юрасю вольны адвод даць.

Тыя працiскаюцца цераз вузкі пералаз у сцяне і паўзуць, хаваючыся за нар-

працяг ☞10

9 ☞працяг

# Трызна

вянскія лозы, бліжэй да броду. Там два яцвягі гарцуюць ля статка быдла, якое чамусьці не хоча ісці цераз ваду. Ад гурту адбіваецца лонская цялушка і падбрыквае берагам Нарвы ў бок Мсцішкі і Балібора. За ёю гоніцца яцвяжскі коннік. На гэта толькі чакаюць нараўляне. Балібор напінае цеціву, і страла мякка грэзне ў яцвяжскіх грудзях. Прашыты стралою яцвяг некаторы час бязвольна хістаецца, прыпаўшы да конскай холкі, і неўзабаве ссоўваецца на здратаваны, чэрствы выган. Яго сябра спачатку было падаецца ў бок упаўшага, але, прыкмеціўшы ля кустоў нараўлян, паварочвае назад да сваіх, пешта крычыць і паказвае на прыбярэжныя лозы.

У грамадзе яцвягаў, што стаяць за бродам, заенчыла берасцяная труба, і на яе кліч збягаюцца з наваколля коннікі.

Яшчэ праз колькі хвілін яны асцярожна абкружаюць прыбярэжныя кусты. Тым часам нараўляне перабеглі ўжо пад крэпасць. Яцвягі, не знайшоўшы нікога ў кустах, падаюцца да свайго падстрэленага родзіча. Той жа ляжыць на лучны перастрэл ад крэпасці — з бойніц ураз сыпнулі стрэлы і каменне. Храпуць, іржуць ды дыбяцца параненыя коні, гарланяць яцвягі, адскокваючы назад ад крэпасці.

Твары нараўлян праясняюцца. Нават і яму палягчэла на сэрцы: вылазка ўдалася — Юрась напэўна ўжо здолеў значна аддаліцца ад крэпасці. І ўсё ж такі на вялікую ўцеху ранавата. З усяго відаць, што яцвягі рыхтуюць наступ на крэпасць.

Адны з іх збіваюць з жэрдзя і сухастою плыты на Нарве і Нараўцы, другія звозяць са стагоў і абарогаў, што раскіданы воддаль крэпасці на нараўлянскіх лугах і палетках, снапы і вязкі сена. Ладуюць на плытах плывучыя стагі.

Мітусяцца абаронцы, падкідаюць смолі на палаючы ўжо колькі часу віццевы слуп, тоячы ў сэрцы надзею, што Крушва або Гарадок, а то і Бельск уважаць іх бяду і на падмогу падскочаць.

О, Сваража, хісткая гэта надзея!

Ворагі ўжо наладавалі тузін стагоў і цяпер, схаваўшыся за гэтыя шчыты — заслоны, пасоўваюцца ўброд з трох бакоў да крэпасці. Ні стралой іх дастаць, ці суліцай калупнуць: у саломе ды сене ўсё застрагае. І падпаліць стагі няма як: абклалі іх яцвягі сырой ялінаю — ад палаючай стралы ім не заняцца.

— Брацця мае і другі, — голас Міхаля дрыжыць і зрываецца, — калі смерць прылучыцца нам, то ўкупе супольную чашу прымем... Прыспела, брацця, нашая гадзіна за цвердзь родную і за сябе пастаяць, аддамо ж паганым воздар семярыцаю!

Цяжка слухаць лямант жанчын, калі яны, прыгарнуўшы малалетак-дзяцей, спаўзаюць у падземныя лазы-норы, каб там перачакаць страшную гадзіну. Што з імі будзе, калі крэпасць стане ў агні? У лазах ад дыму і агню задыхнешся, пакуль праграбешся пад крапасной сцяной на той бок. Але такая смерць лепшая, чым жыццё рабамі-калоднікамі, праданымі яцвягамі за мора Варажскае...

Хто толькі можа ўзняць прашчу або напяць цеціву лука — усе становяцца ля бойніц.

Плывуны-стагі ўжо на лучны перастрэл ад крэпасці.

Калі моцна сціснуць зубы і затрымаць дух, тады можна на момант перамагчы боль у руцэ і напяць цеціву лука. Але пасля таго як страла вылецела і лук уздрыгвае — трэба заплюшчваць ад болю вочы.

Некалькі яцвягаў адкацілася з-за стагоў далей ад крэпасці, на выган, відаць, раненыя. Пару ляжыць на рачных адкосах — забітыя. Але і ў крэпасці ёсць страты. Прашчніку Мсцішку страла прашыла шыю, і ён віецца на дзядзінцы, захлёбваючыся ўласнаю крывёю. На падмостку ля свае бойніцы ляжыць Уней, забіты стралой у вока напавал. Са стралой у грудзях прысеў і не падымаецца ўжо Мірон. А тыя ўжо пад сценамі. Едкі бела-жоўты дым клубіцца ў бойніцах, затапляе дзядзінец, слепіць і душыць — гэта яцвягі падпалілі свае стагі. Нараўляне надрыўна кашляюць, слепнуць у клубах дыму.

— Паддавайцеся! — крычаць яцвягі.

На самым версе сцяны дым не такі едкі. Там, лежачы плашмя, падлеткі спіхаюць на ворагаў калоды, ліюць вар. А тыя лезуць і лезуць.

Ціха, неяк сарамліва плача-стогне падлетак, калі прашчны камень разбівае яму твар або страла прашывае жывот. Яшчэ цішэйшы яго крык, як яму яцвягі скручваюць вяроўкай рукі і ногі ды, саданўшы нагою ў грудзі, спіхаюць на той бок сцяны, у вечную рабату.

Яцвягі на сценах...

Бяссільна перавесіўся ля бойніцы валадар Міхаль. Шматкі ружовай пены адрываюцца ад яго вуснаў і бязгучна распырскваюцца па бярвеннях сцяны. Страшна стогне Буд — страла ўелася яму ў рот і выйшла на патыліцы...

Гіне крэпасць, гіне!

— Не! Не дам ёй згінуць! Не дам...

Лук ужо мне не патрэбен. На дзядзінцы яшчэ тлее галаўня ўпаўшага віццевага стаўпа. У грыдніцы вызернутыя саламяныя пасцелі грыдзяў, стус адзежын і радзён загараецца адразу. Полымя перакідваецца на палаці, сцены, столь.

У свірне ў гліняных карчагах ільняны і канапляны алей. З разбітай пасудзіны ён ліецца мякка і плаўна, а падпалены — паўзе вогненнымі змеямі па ўсім свірне. На вышках у стайнях і скотніцах сухое сена...

Гарыць наша цвердзь. Палае, як урачысты стус пахавальны. Полымя выбіваецца з дзвярэй і акенец, паўзе па драніцавых стрэхах, перавальваецца на крапасныя сцены... Не дзіва — усё лета суш стаяла.

Яцвягі ўжо на дзядзінцы. Адны кінуліся да памяшканняў, але адскочылі стуль — усё гарыць. Разбягаюцца па дзядзінцы і падмостках. Здзіраюць з мёртвых зброю і адзежу, раненым соўгаюць пад шыйную ключыцу вастрыі сваіх каротkіх нямецкіх мячоў.

Раве, баронячыся, Буд. Не патрэбна ўжо, не. Трашчыць і рушыцца на яго і яго ворагаў палаючая старажавая вежа. Прыгожую трызну маеш ты, Буд. Заслужыў яе, хутка і ўлучна, без пагрэху, пасылаў ты стрэлы ў ворагаў нашых.

Яцвягі кідаюцца да брамы. Намагаюцца выважыць яе. Пашто? Над ёю ўжо тлее сцяна. Яны кідаюцца ў шчыліны бойніц, узбіраюцца на сцены, скачуць з іх прэч.

Але гэты вунь, рослы, з рыжай барадою, ідзе па мой дух. Добра, як добра! Юрасю, ты жывы, я ведаю — ты жывы і цэлы... О, Сваража! Сваража-а-ах...

*1967*




Было б вельмі карысна, калі б з мэтай папулярызацыі беларускай мовы і яе сучаснай літаратуры настаўнікі ў школах раілі б сваім вучням заглядаць на сайты, дзе змешчаны вершы ці апавяданні пабеларуску. Некаторыя з гэтых сайтаў часам уражваюць сваёй прыгажосцю, выразным афармленнем, арыгінальнай падачай інфармацыі. Асабліва хораша выглядаюць вэб-старонкі, якія хай сабе і не мультымедыйныя, але спалучаюць тэкставы і графічны матэрыял. Адным з прыкладаў такога ўдалага спалучэння з'яўляецца сайт, які мае назву „Галерэя".

Месціцца даны мастацкі сайт па адрасе **www.bel-art.org**. Выгляд яго першай старонкі падаецца нейкім незавершаным. Там няма назвы, звыкла размешчанай уверсе выяўлення, няма пададзеных зверху ці злева выйсцяў на рубрыкі сайта. Затое размешчаны там выявы скульптур, інтэр'ера і кароткі расповед пра сайт.

„Гэтая рубрыка нашага праекта ўзнікла дзякуючы думцы аб недастатковасці асвятлення з'яў беларускай культуры ў камп'ютарных сферах, аб магчымасці папулярызацыі іх праз такую камп'ютарную сетку як інтэрнэт. Таму рубрыка «Галерэя» — своеасаблівая спроба выправіць гэтую хібу. Яна будзе знаёміць вас з творамі беларускіх мастакоў і літаратараў. Экспазіцыя галерэі перыядычна абнаўляецца, таму запрашаем заглядаць сюды часцей. У галерэі змешчаныя працы выпускнікоў і студэнтаў Беларускай акадэміі мастацтваў, філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і проста таленавітых мастакоў, дызайнераў і паэтаў", — распавядаюць пра сваю віртуальную галерэю яе стваральнікі, якія чамусьці не называюць сябе.

Разам з тым сайт нельга назваць створаным некім невядомым. Па меншай меры, калі зазірнуць на выйсці да рубрык, што месцяцца справа, то там можна ўбачыць многа прозвішчаў мастакоў, кожнаму з якіх прысвечаныя цэлыя старонкі. Таксама на тых старонках побач з карцінамі размешчаны вершы — такая кампіляцыя вельмі нечаканая, і прыемна ўражвае. Адметна, што практычна ўсе вершы да карцін напісаны маладым паэтам Андрэем Кузьнечыкам тарашкевіцкім правапісам.

Дарэчы, вершы яго месцяцца і на асобнай старонцы, прысвечанай паэту. Таксама маюць рубрыкі на сайце яшчэ два паэты — Віктар Жыбуль і Янка Лайкоў.

Асабліва цікавай падаецца „Тэматычная рубрыка", дзе на паасобных старонках знаходзяцца вершы пра поры года. Да надышоўшага верасня будзе вельмі дарэчы зазірнуць на старонку „Восень", якая, як аказваецца, з'яўляецца пачаткам усёй „Тэматычнай рубрыкі".

„Адкрываючы тэматычную рубрыку, якая будзе знаёміць вас з творамі таленавітых беларускіх аўтараў — як сучаснікаў, так і папярэднікаў — мы вырашылі абраць першай яе тэмай восень. Напэўна, няма ў беларускай літаратуры ніводнага паэта, які не прысвяціў гэтай пары хаця б некалькі радкоў. А шмат для каго яна стала галоўным вобразам, галоўным матывам. Восень. Ціхія ранкі, буйнне мядзяных і барвовых фарбаў, крышталёвая свежасць паветра, затоены лёгкі сум. Час успамінаў і роздуму, ачышчэння і спакою. Час натхнення", — вось так прыгожа піша пра надышоўшую пару года Алена Кірэева.

Да вартых увагі рубрык сайта можна аднесці таксама „Пачуцці: Каханне" і „Святы: Дзяды".

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з Календара

## Вярнуць імя героя



# 85 гадоў з дня нараджэння Расціслава Лапіцкага

У гісторыі ёсць асобы, якія павінны шанавацца ўсёй нацыяй, аднак здараецца, што яны мала каму вядомыя. Так зараз у Беларусі з імем Расціслава Лапіцкага, якога можна назваць Каліноўскім XX стагоддзя.

Расціслаў Лапіцкі нарадзіўся 1 верасня 1928 года ў вёсцы Касута на Віленшчыне ў сям'і праваслаўнага святара. У час Другой сусветнай вайны Лапіцкія апынуліся ў Кабыльніку на Мядзельшчыне. Тут у 1944 годзе хлопец і ўлучыўся ў патрыятычны рух, запачатканы ў гэтым рэгіёне навучэнцамі Віленскай беларускай гімназіі і Віленскай духоўнай семінарыі. Пры арыштах іншадумцаў таксама быў зняволены — за перадрук і распаўсюд улётак. Як малалетак, ён атрымаў тры гады турмы, а старэйшы брат Алег — дзесяць.

Вярнуўшыся праз год па амністыі дахаты, юнак спачатку вучыўся ў Кабыльніку, а затым у Мядзельскай дзесяцігодцы. У Мядзелі Расціслаў Лапіцкі і разгарнуў працу па стварэнні новай нелегальнай арганізацыі. Актыўнымі яго памочнікамі сталі Факунда Несцяровіч з Юшкавічаў і Язэп Качарга з Качарог. Лапіцкі быў досыць радыкальны ў сваіх пазіцыях.

Увосень 1949 года аўдавелая маці перабралася з сынам да сваякоў у Смаргонь. На новым месцы Расціслаў зноў пачаў шукаць тых, каму неабыякавы лёс Бацькаўшчыны. Назбіралася паўтара дзесятка аднадумцаў. Лапіцкі — рослы, прыгожы, шчодра адораны здольнасцямі, з вострым розумам і палкім характарам — быў сапраўдным іх лідарам. Пачалі з улётак. У вёсачцы над Вяллёй уладкавалі невялікую друкарню і неўзабаве ў горадзе, нават на будынках райкама і міліцыі, забялелі расклееныя пракламацыі, і кожная канчалася заклікам: „Смерць Сталіну!".

Высачыць патрыётаў, не абазнаных у канспірацыі, было няцяжка. Дый сам Расціслаў не хаваў сваіх перакананняў, асабліва на школьных уроках. Пад канец года яго арыштавалі. Тыднёвы допыт не вырваў прызнання, і юнак часова быў выпушчаны з вязніцы. Паводле пастановы арганізацыі ён пакінуў Смаргонь і таемна вярнуўся на Мядзельшчыну. Але і там цяжка было знайсці надзейны прытулак. Мядзельскія падпольшчыкаў ужо выдаў здраднік, і чуткі пра арышты шырока разышліся па раёне. У Кабыльніку знясілены і хворы Расціслаў зноў быў схоплены эмгэбістамі. Гэтым жа часам ужо ішлі масавыя арышты і ў Смаргоні.

На допытах юнакоў і дзяўчат катавалі бязлітасна. Пра гэта пакінулі сведчанні тыя, хто вярнуўся жывым з канцлагераў. 15 чэрвеня 1950 года ў Маладзечне адбыўся суд над патрыётамі — пераважна вучнямі 7-10 класаў Смаргонскай і Мядзельскай школ, некаторымі навучэнцамі з Менска. Іх звінавацілі не толькі ў „вражеской пропаганде", але і ў здзяйсненні тэрарыстычных актаў. Сведчанні Расціслава Лапіцкага на судзе былі прамовамі-абвінавачаннямі рэжыму. Ён гаварыў, як бальшавікі выгналі яго сям'ю зімою з хаты, як яны зневажаюць за веру ў Бога, закрываюць цэрквы і касцёлы, як прыніжаюць беларускую мову, як душаць людзей вязлівымі падаткамі, даводзячы да самагубства.

Бальшыня моладзі была засуджана да 25 гадоў лагера. Лапіцкага ж і Несцяровіча як кіраўнікоў арганізацыі прысудзілі да расстрэлу. Расціслаў адмовіўся прасіць памілавання...

Не так даўно пра Лапіцкага выйшла кніжачка і зняты дакументальны фільм. Прыйдзе час і агульнанацыянальнага ўшанавання.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Летні фэст у Ляўкове

Пасля поўдня ў апошні дзень жніўня гэтага года па Старым Ляўкове (Гайнаўскі павет) плылі прыгожыя беларускія песні. Музей і Асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы (у рамках праекта „І тут жывуць людзі”) ды Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы арганізавалі ў тамашнім амфітэатры поруч керамічнай фабрыкі беларускі народны фэст. (Афішы пра яго загадзя раней развесілі солтысы ў сваіх вёсках.) Варта дадаць, што ў Нараўчанскай гміне Музей і Асяродак беларускай культуры ладзіў свае фэсты ў Старым Масеве, Нараўцы, Свінароях і ў Альхоўцы.

Арганізатары запрасілі мастацкія калектывы „Цаглінкі” са Старога Ляўкова, „Ручаёк” з Белавежы, „Арт-Пронар” з Нарвы і „Dekada Band” з Беластока. Яны запрэзентавалі розныя музычныя гатункі. Рэпертуар быў багаты. Усе гурты выступілі паспяхова. Канцэрт вялі Марыёля Герман і Паўліна Паўлючук.

Першым выступіў „Ручаёк”. Спяваў ён песні „Ой у полі”, „Дуб не зялёны чом”, „Ой да асыпаецца вішнёвы сад”, „Гарэла сосна”, „Вёсачка”, „Чорны очка” ды „Ночка цёмная”. За „Ручайком” на сцэну выйшлі „Цаглінкі”. У рэпертуары ў іх былі песні „Засіяла зорка”, „Свяці, свяці месячэньку”, „Туман ярам”, „Расцвіла каліна”, „Тапаля”, „Прымакі”, „У зялёную дуброву пайду вечарам” і іншыя.

Салістка Малгажата Мацяроўская з гурту „Dekada Band” з Беластока спявала — паводле яе густу — самыя прыгожыя песні, як яна заявіла „cud, miód i orzeszki”, а былі гэта: „Вы шуміце нада мною бярозы”, „Чараўніца”, „Ранняю парою”, „Не шукай ты мяне”, „Беларусь мая” і „Чом ты не прыйшоў”. Ды цяжка з гэтым не пагадзіцца.

Эстрадны калектыў „Арт-Пронар” з Нарвы мілагучна спяваў больш за паўтары гадзіны. Толькі часу далі яму арганізатары (гурт „Гай” з Беластока не прыехаў). І спявалі прыгожыя песні ажно да пары, як сказаў са сцэны кіраўнік гурту Ян Снарскі, „gdy jeszcze nie gwiżdżą, jeszcze są”. А са сцэны плылі, луналі па вёсцы песні „Маміна сарочка”, „Плакучая гітара”, „Бела каліна”, „Букеты белых руж”, „Давай, налівай”, „Хлеб ды соль”, „Гэта наш край”, „Шарманка”, „Мая гітара даўно не грала”, „Белая Русь”.

Надвор'е стаяла па-летняму цёплае, пагодлівае. А 16 гадзіне мерапрыемства адкрылі Тамаш Ціханюк — дырэктар Музея і Асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы і Мікалай Павільч — войт Нараўчанскай гміны. Прыемна і весела было пасядзець (гмінныя ўлады паклапаціліся пра лавы для ўдзельнікаў канцэрта) і асалодзіць сабе пасляжніўны вольны час беларускімі мілагучнымі песнямі. У міжчасе быў конкурс пра Беларускі музей у Гайнаўцы, які сёлета святкуе 30-гадовы юбілей. Пераможцам стаў Грыша Пякарскі са Старога Ляўкова.

Былі крамы з Гайнаўкі з беларускай літаратурай і народным рукадзеллем. Паставілі і ларкі, у якіх было чым падсілкавацца. Было ўдоваль піва і марожанага. Апрача таго кожны мог купіць сабе нейкі сувенір.

Шкада, што на фэст не завітаў у Ляўкова да выбаршчыкаў ні адзін пасол Беластоцкай зямлі. А мерапрыемства было шматлюднае. Чаму яны зараз не хочуць наведаць гэты куток Беласточчыны?

Пасля канцэрта адбылася танцавальная вечарына пад гукі аркестра гурту „Гэта мы”, на якой бавіліся моладзь і дарослыя. Сёлета была гэта ўжо апошняя культурна-забаўляльная імпрэза ў стараляўкоўскім амфітэатры. Была яна ўдалая. Дык да сустрэчы праз год!

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Турыстычныя разважанні

Нядаўна давялося мне пасля дзесяткаў гадоў ізноў наведаць Свентакшыскія горы. У маёй памяці засела драўляная забудова падкелецкіх вёсак, іх рустыкальны, трохі старасвецкі выгляд, ну і найважнейшыя для турыстаў месцы: Лысая гара і Лысіца, кляштары раманскага складу, маляўнічыя руіны замкаў і даўніх аб'ектаў старапольскай прамысловасці, турысты на горных шляхах... Нямнога з гэта засталося ў нязмененай форме. На шляхах натоўпы экскурсантаў з дзяцьмі, сабачкамі і неад'емнымі мабільнікамі. Амаль ніхто не вандруе з заплечнікам, затое амаль кожны намагаецца як найдалей і найвышей даехаць на сваёй легкавушцы. На гары Святы Крыж тлум такі, як у нас на Спаса на Грабарцы. Тамашнія ціхія вёскі амаль поўнасцю зніклі: уздоўж дарог цягнуцца шэрагі вілаў, дворыкаў, палацыкаў. У некаторых мясцовасцях старой хаціны днём з агнём не пабачыш. Гэта вынік замежнай працы тамашніх жыхароў. Толькі ландшафт застаўся амаль нязмененым: відаць, у народзе слабая вера, каб перасоўваць горы.

Чаму аб гэтым пішу ў „Ніве”? Менавіта таму, што баюся ці не так з часам будуць выглядаць нашыя прыпушчанскія мясцовасці. Турыстычны рух у нашым рэгіёне будзе безупынна развівацца, і не заўсёды ў жаданым напрамку. Колькасць турыстаў, прытым найгоршай катэгорыі: аўтамабільных, з кожным годам будзе павялічвацца. З часам будзем рабіць усё, каб паказваць ім тое, што яны хочуць, і такім, якім яны хочуць. Вядомая мужыцкая рыса: і вашым, і нашым за капеечку спляшам. Гэтая катэгорыя прышэльцаў папраўдзе пакідае многа грошай, але наймацней уплывае на дыснейлендызацыю абшараў іх зацікаўлення. Відаць гэта, на жаль, штораз больш у Белавежы.

На Падляшшы многа атракцыйных месц для аматараў помнікаў старажытнасці, прыроды ці непаўторнага клімату яшчэ жывых сялянскіх традыцый: грамадскіх, рэлігійных, ці ў шырэйшым абсягу культурных. Захаваліся ў нас старыя аб'екты культу, драўляная забудова вёсак, шмат месц ахутаных таямнічай аўрай звышнатуральнасці, маем сардэчных і гасцінных людзей, смачную рэгіянальную кухню, шматэтнічнае насельніцтва — адным словам маем такія скарбы, якія прыцягваюць і будуць прыцягваць людзей з іншых рэгіёнаў Польшчы. Але не ўмеем яшчэ гэтага паспяхова разрэкламаваць, дайсці да турыстаў з даведнікамі ці рэгіянальнымі сувенірамі. Паспрабуйце на турыстычных маршрутах купіць карту, даведнік ці паштоўкі — гэтага ў месцах, да якіх трапляе турыст, папросту няма. Праўда, бываюць, часта выдадзеныя на добрым узроўні, турыстычныя даведнікі аб некаторых гмінах (добрым прыкладам гэтаму з'яўляецца Мельнік), але можна іх атрымаць (найчасцей дарам!) ва ўправах гмін ці старостваx. Толькі ці турыст наведвае гэтыя ўстановы ў час водпуску? Ваяводскія і павятовыя чыноўнікі занятыя чымсьці важнейшым, чым турызм, краязнаўства або іншая пусцяковіна.

Што нам можна зрабіць самім, без удзелу дзяржавы? Перш за ўсё ахоўваць краявід, дзейнічаць на карысць забеспячэння жыхарам вёсак і мястэчак умоў для годнага жыцця, урэшце распрацаваць стратэгічныя планы падкантрольнага развіцця турызму ў рэгіёне. Хто меў бы гэтае зрабіць, калі на чыноўнікаў разлічваць нельга? Кожны. Бо толькі ад мяне залежыць, ці стары драўляны плот заменіць каменна-жалезная брыдота або паскудная драцяная сетка, ці куплю новыя штахеты і аднаўлю традыцыйны плот. Кошт не адыгрывае вырашальнай ролі, паколькі цэны драўлянай агароджы і сеткі падобныя. А маштабныя дзеянні галоўным чынам і так залежаць ад інвестыцыйных магчымасцей. Абанкручаная дзяржава такіх магчымасцей не мае. Але шматлікія няўрадавыя арганізацыі — рэгіянальныя, галіновыя, культурныя — могуць стварыць нейкі форум, пакарыстацца меркаваннямі спецыялістаў па турызме, запланаваць (можа разам з войтамі?) прыватныя інвестыцыі ці выдавецкія ініцыятывы. Трэба ўрэшце пачаць па-сур'ёзнаму ставіцца да багацця, якім Бог надзяліў жыхароў Падляшша і Беласточчыны. Неўзабаве акажацца, што не трэба бадзяцца па Бельгіях і Англіях, каб жыць у сябе годна і заможна. Толькі каму — па-за адзінкамі — на гэтым залежыць?

**Марк ЦЫБАРТ**

# Адгаданка

1. гістарычны беларускі герб, 2. невялікі вершаваны твор на легендарную тэму, 3. Апалонава гара ў Грэцыі, 4. азіяцкая частка Турцыі, 5. дрэва сямейства вязавых, 6. плывучая ледзяная гара, 7. частка тушы жывёл, што ідзе ў ежу, 8. пасудзіна для захоўвання тэмпературы яе змесціва, 9. судна, якое прыводзілі ў рух катаржнікі, 10. кукуруза, 11. тлушч з насення раслін.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 31 нумара**

Генетыка, Зоя, Кана, кумір.

Рашэнне: **Які музыка, такое гранне**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхалюку** з Рыбал і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

# 08.09 — 14.09

**(22.03. — 20.04.)** З 11.09. на ідэальным абліку тваёй пары могуць паявіцца трэшчыны, але стаўся да гэтага памяркоўна. У пастаянных парах будуць спрэчкі, але без большых драм (хіба што ўжо не ладзіце даўно). У кар'еры горача, найбольш 7-11.09., лепш тады не вырашай стратэгічнага, а змаганне будзе лішне стрэсуючым і стамляльным у параўнанні з прыбыткамі. Тым больш што магчымы застой і бяссілле; трэба будзе ад чагосьці адмовіцца.

**(21.04. — 21.05.)** Трэба будзе вырашыць, чаго шукаеш у пачуццях. Пасля 11.09. глянеш менш крытычна на каханую асобу. Але 8-12.09. пачнеш не ладзіць з каханай асобай або і з шэфам — можа гэта для цябе кончыцца нядобра. З 12.09. (да 16.09.) паплывеш на хвалі энтузіязму; можаш атрымаць незвычайную прапанову.

**(22.05. — 22.06.)** 8-10.09. добрыя задумы, аформіш шмат спраў, выклічаш прызнанне. З 12.09. (да 16.09.) не паддавайся намовам; будзе рызыка, што цябе выкарыстаюць. Магчымы наезд гасцей. Не стаў спраў рубам, дыпламатыяй здабудзеш больш.

**(23.06. — 23.07.)** Двое на гайданцы, але пачнеш нудзіцца. Дома міла, асабліва ў першыя дні тыдня. Але 11.09. могуць пачацца праблемы, бо закрытыя справы могуць вярнуцца як начны кашмар. Не налягай на ласункі, бо хутка папраўвішся. 9.09. шчаслівыя выпадкі. 6-10.09. — добры час на падарожжы і рашэнні, якія патрабуюць дыпламатыі і адвагі. 7-11.09. добра пільнуй кашалька! З 13.09. (да 17.09.) можаш пачаць інвеставаць і купляць, але не паддавайся намовам дзяцей.

**(24.07. — 23.08.)** 9.09. будзеш поўны веры і пачуцця гумару. З 12.09. важныя рашэнні і супакой; важныя выбары будуць канчатковымі. Вельмі цяжкія дні 7-11.09. — натрапіш на перашкоды, якіх можаш не пераадолець, канфлікты са старэйшымі асобамі; старайся абмінаць далікатныя тэмы. Не пускай дзяцей самапасам. Не ўваходзь у ніякія суполкі!

**(24.08. — 23.09.)** Не слухай плеткароў. Някепска ў здароўі, але старайся не нервавацца. Да 10.09. падпісвай дамовы, добрыя прыбыткі, вяртанне даўгоў. З 12.09. (да 16.09.) не слухай падмоў, цвёрда трымайся сваіх прынцыпаў.

**(24.09. — 23.10.)** З 9.09. (аж да 29.09.) твае прыёмы надта інтэлігентныя; маеш шанцы здабыць найважнейшыя інфармацыі, разабрацца ва ўсіх справах. Але з 12.09. дробныя непаразуменні, цяжкі час на сур'ёзныя размовы. 7-11.09. прыйдзецца заціснуць папругу, будзе скромна, але зусім міла, а з 11.09. зможаш зрабіць сабе і іншым мілыя, можа і недарагія, сюрпрызы! А ў кар'еры ўсё ідзе да дабра!

**(24.10. — 22.11.)** З 11.09. самотныя Скарпіёны пачнуць інтэнсіўна разглядацца за кампаньёнам жыцця, ды пагражае засуха. Дома будзеш схільны да тыраніі, хіба што трапіш на... другога Скарпіёна. 7-11.09. не знеахвочвайся і не адмаўляйся ад сваіх планаў. З 11.09. узмоцняцца твае сілы, будзеш асабліва мілавідны і поўны міласці. Затое на працы і дома „ўкапаюць” цябе ў новыя абавязкі. З 13.09. (да 17.09.) час спрыяе адважным і трапным рашэнням.

**(23.11. — 22.12.)** Форма ненайлепшая, але не ашчаджайся. Не спавальняй тэмп, бо цяпер добры час на змену прывычак і ўваход у пасляканікульнае жыццё. На працы ты проста незаменны. Будзеш мець нагоды заззяць, асабліва 8 і 9 верасня.

**(23.12. — 20.01.)** Не забывай аб дыеце. Дома шмат замяшання; не камбінуй, бо першыя задумы будуць найлепшыя. Працы шмат, але з усім справішся, найлепш да 11.09. Шэф дазволіць рэалізаваць праекты па-твойму. Замяшанне ў пачуццях 7-11.08. — схочацца змен, але не будзеш упэўнены, ці на гэта не зарана.

**(21.01. — 19.02.)** 8-9.09. паляпшэнне ў фінансах, сімпатыя, прыцягванне шчасця. 13-14.09. можаш шукаць працы. 7-11.09. у пары цяжка з кампрамісамі. Вадалеям, народжаным у першай палове лютага, пагражаюць прастуды, а народжаным у студзені — праблемы з нервамі. Пасля 11.09. напоўнішся аптымізмам і духам.

**(20.02. — 21.03.)** Пачнеш цаніць тое, чаму навучылі цябе бацькі. Давярай інтуіцыі. Да 10.09. будзеш яшчэ крыху слабы. Падмацуюць цябе вітамін С, фіззарадка, медытацыя і правільнае дыханне. З 12.09. час на найлепшыя рандэву. З 13.09. адпусціш сабе пакупніцкі пост!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7$^{00}$ – 18$^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 100 egz.

Гутарка з **Ксеніяй Канеўскай**, спецыялістам па арт-прэзентацыях маладых творцаў з постсавецкай прасторы.

# Ходзьце ў Еўропу!

**„Ніва": — У найбліжэйшую пятніцу, 6 верасня, пачынаецца мерапрыемства „Wawa Design Festiwal". У варшаўскім цэнтры „Soho Factory" будзе магчымасць паглядзець, між іншым, выстаўку „Беларусь. Вуліца якой няма". Вы з'яўляецеся яе куратарам. Гэта першая прэзентацыя беларускага мастацтва ў так шырокім плане ў Заходняй Еўропе. Вы ўжо раней вялі арт-праекты, прысвечаныя маладым творцам з Усходняй Еўропы. Праўда?**

Ксенія Канеўская: — Выстаўка, прысвечаная Беларусі, з'яўляецца дапаўненнем і адначасова закрыццём цыкла, які асвятляў усходнія арт-праекты і мастацтва. Раней быў праект маладых дызайнераў з Украіны пад загалоўкам „... і прачнуўся я ў Еўропе". Раней, у 2012 годзе, я была куратарам выстаўкі „Бог. Гумар. Айчына. Рускі дызайн", прысвечанай артпраектам маладых мастакоў з Расіі. Зараз прыйшоў час Беларусі.

**Н: — Чаму Вы пачалі займацца арганізацыяй выставак і адкуль якраз зацікаўленне Украінай, Расіяй і Беларуссю?**

КК: — Гэта атрымалася так. Я закончыла факультэты гісторыі мастацтва і ўкраінскай філалогіі. Пасля закончыла паслядыпломныя курсы на Аддзяленні гісторыі мастацтва Ягелонскага ўніверсітэта па спецыяльнасці куратар выставак. Мой дэбют — гэта прэзентацыя сучаснага польскага мастацтва пад кірункам Анды Ротэнберг. Гэта быў жыццёвы выклік, аднак досвед паказаў, што ў жыцці хачу ісці ў гэтым напрамку. Сёння вельмі цешуся, што магу рабіць цудоўныя рэчы. З аднаго боку — гэта мая прафесія, з другога — я люблю сваю працу. Арт-праектамі займаюся прафесійна. Я — супрацоўніца часопіса „Elle Decoration". Выстаўкі арганізую пасля працоўных гадзін.

**Н: — А адкуль у Вас зацікаўленне Усходам?**

КК: — Немагчыма, каб чалавек з маім імем мог займацца чымсьці іншым як Усход (*смяецца*). Імя Ксенія прыдумала мая бабуля Галя. Сям'я бацькі родам з Кялеччыны, а ў мамінай сям'і карані ва Украіне. Частка сям'і жыве ў Кіеве, частка ў Адэсе. Маці нарадзілася ў Польшчы, я нарадзілася і жыву ў Варшаве. У хаце размаўляем па-польску. Я занялася Усходам, каб далучыцца да сямейнай спадчыны, каб несці за яе адказнасць.

**Н: — Вы былі ва Украіне?**

КК: — Зразумела! Шмат разоў. Выстаўку „...і прачнуўся я ў Еўропе" падрыхтавала я на аснове падарожжа па Украіне. Яшчэ раней, практычна праз усё маё дзяцінства, мы пабывалі на канікулах у Адэсе. Сям'я маці вельмі каларытная. Папраўдзе, усе яны звязаныя з мастацтвам. Гэта мастакі, артысты. Мой бацька — інжынер. У нашай сям'і мастацкі дух спалучыўся з практычным мысленнем. Мой брат Януш Канеўскі (сусветны вядомасці праектант і акадэмічны выкладчык — рэд.) займаецца дакладна тым, чым займаўся бацька ў Варшаўскай палітэхніцы. Ён праектуе машыны. А я хачу аказваць падтрымку творцам на шмат розных спосабаў.

**Н: — Між іншым Вы арганізуеце выстаўкі...**

КК: Так. Хаця не толькі. Можна сказаць, што ўсё пачалося са злосці. У Польшчы выходзіць вельмі мала ўкраінскай літаратуры, ды нават калі з'яўляюцца пераклады, то амаль ніхто пра іх не ведае. Найбольш крыўдна было за кніжку Наталкі Снеданко „Ahatanhel", якая зусім не была агучана. Я ў нервах пазваніла ў выдавецтва „Czarne". Спытала, ці ёсць у іх нейкая думка, каб прэзентаваць кніжку. Калі аказалася, што няма, я сама прапанавала ім дапамогу. З гэтай мэтай супольна са знаёмымі мы стварылі нефармальную тэатральную групу „Wolna Interpretacja". Тады ўзніклі кантакты і цікавыя знаёмствы.

**Н: — Што Вам падабаецца ва ўкраінскай літаратуры?**

КК: Мяне цікавяць два гістарычныя перыяды. Першы — міфалогія Карпатыі і ўкраінскі рамантызм. Не ідзе тут нават пра чалавечую фантазію, толькі пра факт блізкага суіснавання чалавека і прыроды, скоранасці перад яе магутнасцю і рытмам. Прыдуманыя ў літаратуры фантастычныя персанажы здаюцца тады амаль рэальнымі і вечнымі. Гэта бачна як ажылі яны ў літаратурна-мастацкіх эксперыментах у 1990-я гады. Другі перыяд, які мяне захапляе, гэта ўкраінскі постмадэрн. Я люблю характэрную для гэтага перыяду гульню са словам, інтэрструктуральнасць і пошукі ў стылі групоўкі „Бу-Ба-Бу", якую заснаваў, між іншым, Юры Андруховыч. Яны перакладаюцца на мастацтва, дызайн. Тут відавочна, што можна эксперыментаваць з формай, не губляючы яе функцыі. У Польшчы гэтага не відаць.



Фота Яцэк Парэмба

...паколькі немагчыма фізічна стварыць такой вуліцы ў сучаснай Беларусі, мы рашылі даць прастору беларускім мастакам, каб яны запрэзентавалі сваю вуліцу ў краіне, якая шануе правы чалавека, а таксама дае магчымасць свабоднага мастацкага выказвання...

**Н: — Магчыма, тут недастаткова ажыўлены дух?**

КК: — Магчыма. Ва Украіне і Беларусі відавочныя праявы патрыятызму, напрыклад, вяртанне да сапраўдных духовых каранёў. Гэта не толькі пашана спадчыны продкаў, гэта скарыстанне каранёў у транспазіцыі на сучасныя арт-праекты. У Беларусі гэта відавочнае як у музыцы, так і ў візуальным мастацтве.

**Н: — Якую беларускую музыку Вы найбольш любіце?**

КК: — Напэўна мой выбар не будзе арыгінальны калі скажу, што з беларускіх гуртоў мне падабаецца „Ляпіс Трубяцкой" (*смех*). Ведаю многа людзей, якія менш ці больш прафесійна займаюцца пошукам музычных каранёў: мелодыі, слоў, інструментаў. Гэта найперш глыбокія этнаграфічныя пошукі. З-за такіх якасцей вельмі падабаецца мне польска-беларускі „Etno-Projekt". Вынікі сёлетняга выпуску можна будзе паглядзець з 6 па 15 верасня на „Wawa Design Festiwal".

**Н: — Чаму варта звярнуць на іх увагу?**

КК: — Я лічу каштоўным, калі маладыя людзі шукаюць апірышча ў традыцыі. Маладыя арт-праектанты лічаць дызайн сучасным носьбітам патрыятызму. З аднаго боку — ідзе каб карыстацца тэхналогіямі, якія прымяняюць у свеце. З другога боку, каб не парываць з традыцыяй сваёй краіны.

**Н: — Ці Вы думаеце, што якасці, народжаныя ва ўсходняй традыцыі, могуць зацікавіць свет?**

КК: — Я перакананая ў гэтым. Усходнія краіны за некалькі гадоў здамінуюць Еўропу. Пасля таго, як паглядзела я сёлетнія прапановы на кірмашы ў Мілане, — гэта самае важнае мерапрыемства, прысвечанае дызайну, — хутка заходнім канцэрнам не будзе з чым паказацца. Там няма развіцця.

**Н: — Адкуль назва выстаўкі „Беларусь. Вуліца, якой няма"?**

КК: — Гэта вынік маёй рэфлексіі пасля візіту ў Беларусь. У пяць гадзін раніцы, калі я прыехала ў Мінск, горад здаўся мне метраполіяй, з якой перасялілі ўсіх жыхароў ды вуліцы пачысцілі з якой-колечы мастацкай ці грамадскай дзейнасці. Няма там наклеек, стрыт-арту, графіці, плакатаў. Ніякіх надпісаў, знакаў, якія інфармавалі б пра тое, што нехта кагосьці кахае або ненавідзіць, што нехта з вамі згодны або не пагаджаецца. Я не з'яўляюся прыхільніцай, калі пэцкаюць сцены, аднак такія праявы жыцця чалавека як надпісы, наклейкі, малыя і вялікія інфармацыі дазваляюць пазнаёміцца з жыццём і думаннем жыхароў гэтага горада. Паколькі немагчыма фізічна стварыць такой вуліцы ў сучаснай Беларусі, мы рашылі даць прастору беларускім мастакам, каб яны запрэзентавалі сваю вуліцу ў краіне, якая шануе правы чалавека, а таксама дае магчымасць свабоднага мастацкага выказвання.

**Н: — Фестываль — гэта шмат сродкаў выяўлення, вобразнасці...**

КК: — Я запрашаю пазнаёміцца з фестывальнай праграмай даступнай на сайце: **www.wawadesign.eu**. Будуць прэзентацыі дызайну, плаката, тыпаграфіі, а таксама фільмы ў рамках фестывалю „Bulbamovie". Пабачыце вялікія магчымасці мастацкага асяроддзя сучаснай Беларусі. І яшчэ я хацела б, каб нашыя дзеянні былі свайго роду заклікам для беларусаў: „Паверце ў свае магчымасці і ідзіце ў Заходнюю Еўропу". Усіх сардэчна запрашаю.

**Н: — Тады да сустрэчы ў „Soho Factory".**

**Размову правяла Дыяна НАХІЛА, журналістка часопіса „BIZNES meble.pl".**

ISSN 0546-1960